# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



BELARUSIAN DIGEST

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 1 (14) Студзень 1995 January Год выд. 3


## АДКРЫТЫ ЛІСТ ПРЭЗЫДЭНТУ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ

акадэміку
Леаніду СУШЧЭНЮ

*(Факсам з Эўропы)*

Менская гарадзкая Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны зьдзіўлена і абурана тым, што Вы дагэтуль пры выкананьні службовых, дзяржаўных функцыяў і ў час выступленьня на агульным сходзе нацыянальнай АН, якое перадавалася па тэлебачаньні на ўсю Беларусь, не карыстаецеся дзяржаўнай мовай, мовай карэннага этнасу. Узьнікае пытаньне: ці Вы не разумееце ролі і месца асобы Прэзыдэнта Акадэміі навук дзяржавы Беларусь, ці сьвядома падыгрываеце шавіністычным сілам, якія імкнуцца прыдушыць першыя парасткі распачатага адраджэньня беларускай мовы, беларускай культуры, беларускай сыстэмы навукі, выхаваньня і навучаньня.

Спадзяемся на тое, што Вам і Прэзыдыюму АН добра вядомы Канстытуцыя (артыкул 17), Закон аб мовах (артыкулы 2, 11, 27, 28, 29, 31, 32, 35, якія ўведзены ў дзеяньне ў поўным аб'ёме з 1 верасьня 1994 году), Закон аб адукацыі (артыкул 6). Дык чаму-ж Вы, шаноўны прэзыдэнт, чыталі даклад перад навукоўцамі і насельніцтвам усёй Беларусі не на беларускай мове ў парушэньне пералічаных артыкулаў законаў? Аб меры Вашай асабістай адказнасьці і прэзыдыюма АН падумайце самі. Але ці можаце Вы ўявіць сабе, што прэзыдэнт АН Расеі ці Польшчы пры выкананьні службовых абавязкаў прынародна не карыстаецца мовай свайго народу? Ці гэта для Вас зьяўляецца перспэктыўнай фундамэнтальнай навуковай праблемай, рашэньня якой Вы на сёньня ня бачыце? На тэлеэкранах была добра бачна Ваша роля "патуральніка" Прэзыдэнту краіны Аляксандру Лукашэнку, які таксама не карыстаецца на службе дзяржаўнай мовай.

Хто-ж будзе вяртаць 10 мільёнам беларусаў іх родную, Богам дадзеную мову, якую сілком адабралі? Хто-ж будзе адраджаць беларускую мову— аснову асноў разьвіцьця нацыянальнай культуры і навукі? Хто павінен даць новае жыцьцё і разьвіцьцё беларускай нацыянальнай ідэі? Хто, калі не Акадэмія навук і яе кіраўнік прэзыдэнт! Час ідзе: Закон аб мовах прыняты ў 1990 годзе, а Акадэмія навук сьпіць летаргічным сном.

Просім Вас праз сродкі масавай іфармацыі растлумачыць Вашу пазыцыю як дзяржаўнай асобы ў адносінах да лёсавыратавальных праблемаў па стварэньні беларускамоўнага прафесыйнага і бытавога асяродзьдзя ў сувэрэннай дзяржаве Беларусь.

*Прыната на пасяджэньні Рады 29-га лістапада 1994 г.*

Ад імя Рады яе старшыня прафэсар
*Мікола САВІЦКІ.*

## «НАШЫ СЭРЦЫ – ХВОРЫМ ДЗЕЦЯМ»

Напярэдадні навагодніх і калядных святаў Беларускі дзіцячы фонд і яго абласныя аддзяленні ператвараюцца ў своеасаблівую штаб-кватэру Дзеда Мароза. Тут рыхтуюцца віншаванні і падарункі. Адсюль адпраўляюцца выязныя брыгады дарослых і юных артыстаў у дзіцячыя клінікі і дыспансеры, бальніцы і санаторыі, да ўсіх дзяцей, якія трапілі ў бяду.

Вельмі хацелася б, каб у кругавароце сённяшніх шматлікіх праблем і цяжкасцей мы не забыліся на дзетак, якія вымушаны сустракаць Новы год на бальнічным ложку, аб непаўналетніх інвалідах, аб тых, хто з-за хваробы выхоўваецца і навучаецца дома. У бальнічных пакоях медустаноў рэспублікі знаходзіцца больш як 16 тысяч маленькіх пацыентаў і больш як 17 тысяч непаўналетніх інвалідаў. Давайце знойдзем час, магчымасць і жаданне раздзяліць іх гора.

Дабрачынныя ахвяраванні прымаюцца на рахунак 707801 у гарадской дырэкцыі Белбізнесбанка. Валютны рахунак – 000707901 у Белзнешэканомбанку Рэспублікі Беларусь. Усе прапановы будуць уважліва разгледжаны аргкамітэтам акцыі «Нашы сэрцы – хворым дзецям» па адрасу: **г. Мінск, прасп. Ф. Скарыны, 31, тэл. 36-62-67, 36-66-74, 36-62-14.**

## МЕМАРАНДУМ АБ ГАРАНТЫЯХ БЯСПЕКІ БЕЛАРУСІ

ЗВЯЗДА

Рэспубліка Беларусь, Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя,

вітаючы далучэнне Рэспублікі Беларусь да Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі ў якасці дзяржавы, якая не валодае ядзернай зброяй,

улічваючы абавязацельствы Рэспублікі Беларусь аб выдаленні ўсіх ядзерных узбраенняў з яе тэрыторыі ва ўстаноўлены тэрмін,

адзначаючы перамены ў свеце ў галіне бяспекі, у тым ліку сканчэнне «халоднай вайны», якія стварылі ўмовы для глыбокіх скарачэнняў ядзерных сіл,

пацвярджаюць наступнае:

1. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацвярджаюць Рэспубліцы Беларусь свае абавязацельства ў адпаведнасці з прынцыпамі Заключнага акта НБСЕ паважаць незалежнасць, суверэнітэт і існуючыя граніцы Рэспублікі Беларусь.

2. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацвярджаюць свае абавязацельства ўстрымлівацца ад пагрозы сілай або яе прымянення супраць тэрытарыяльнай цэласнасці або палітычнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь і што ніякія іх узбраенні ніколі не будуць выкарыстаны супраць Рэспублікі Беларусь, акрамя як у мэтах самаабароны або якім-небудзь іншым чынам у адпаведнасці са Статутам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

3. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацвярджаюць Рэспубліцы Беларусь свае абавязацельства ў адпаведнасці з прынцыпамі Заключнага акта Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе ўстрымлівацца ад эканамічнага прымушэння, накіраванага на тое, каб падпарадкаваць сваім уласным інтарэсам ажыццяўленне Рэспублікай Беларусь правоў, уласцівых яе суверэнітэту, і такім чынам забяспечыць сабе перавагі любога роду.

4. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацвярджаюць свае абавязацельства дабівацца неадкладных дзеянняў Савета Бяспекі ААН па аказанню дапамогі Рэспубліцы Беларусь як дзяржаве – удзельніцы Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі, якая не валодае ядзернай зброяй, у выпадку, калі Рэспубліка Беларусь стане ахвярай акта агрэсіі або аб'ектам пагрозы агрэсіі з прымяненнем ядзернай зброі.

5. Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя пацвярджаюць у адносінах да Рэспублікі Беларусь свае абавязацельства не прымяняць ядзерную зброю супраць любой дзяржавы – удзельніцы Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі, якая не валодае ядзернай зброяй, акрамя як у выпадку нападзення на іх, іх тэрыторыі або залежныя тэрыторыі, на іх узброеныя сілы або іх саюзнікаў такой дзяржавай, што дзейнічае разам з дзяржавай, якая валодае ядзернай зброяй або звязана з ёй саюзным пагадненнем.

6. Рэспубліка Беларусь, Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Злучаныя Штаты Амерыкі і Расійская Федэрацыя будуць кансультавацца ў выпадку ўзнікнення сітуацыі, якая закранае пытанне адносна гэтых абавязацельстваў.

Гэты Мемарандум будзе ўжывацца з моманту яго падпісання.

*Падпісана ў чатырох экземплярах, аднолькава сапраўдных на беларускай, англійскай і рускай мовах.*

## ВІЦЭ-ПРЭМ'ЕР Віктар ГАНЧАР ПАЙШОЎ У АДСТАЎКУ

Прычына — "рашучая нязгода з антыдэмакратычнымі тэндэнцыямі ў афіцыйнай палітыцы апошняга часу, што зьвязана з дзейнасьцю пэўных асоб непасрэдна ў прэзыдэнцкім акружэньні". Вярнуўшыся з Будапэшту, прэзыдэнт так пракамэнтаваў паведамленьне: "незаменных няма, мы нікога трымаць ня будзем, калі нехта ня хоча працаваць, то няхай сыходзіць..." Нешта нядобрае творыцца ў акружэньні прэзыдэнта. Разумныя людзі пачалі пакідаць "каманду" А. Лукашэнкі.

## БЕЛАРУСКІЯ ПАРЛАМЕНТАРЫІ Ў ЛОНДАНЕ

"ЗВЯЗДА"

Афіцыйная дэлегацыя Вярхоўнага Савета Беларусі на чале з М. Грыбам па запрашэнню ўрада Вялікабрытаніі знаходзіцца ў Лондане.

У ходзе візіту адбыліся сустрэчы ў парламенце Вялікабрытаніі, у аддзеле малога і сярэдняга бізнесу дэпартамента гандлю і прамысловасці, а таксама ў дэпартаменце, які адказвае за каардынацыю работы ўрада і парламента. Завяршыўся рабочы дзень грунтоўным абменам думкамі па пытаннях двухбаковага супрацоўніцтва паміж парламентамі з лордам Макам, канцлерам палаты лордаў. Усе сустрэчы праходзілі ў абстаноўцы ўзаемаразумення і імкнення англійскага боку аказаць дапамогу Рэспубліцы Беларусь у палітычным і эканамічным рэфарміраванні. У гонар дэлегацыі быў дадзены афіцыйны абед у палаце лордаў.

Другі дзень візіту пачаўся з сустрэчы М. Грыба з прэзідэнтам Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця Ж. Ларуаз'ерам, на якой абмяркоўваліся распрацоўваемыя банкам праекты для Беларусі. Прэзідэнт банка з удзячнасцю прыняў запрашэнне наведаць рэспубліку.

У МЗС Вялікабрытаніі Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі меў гутарку з намеснікам міністра замежных спраў, міністрам кабінета Д. Хогам. На ёй былі закрануты пытанні міжпарламенцкіх сувязей Беларусі з іншымі краінамі СНД, пытанні раззбраення і эканамічнага супрацоўніцтва.

Пасля сустрэчы ў гарадскім савеце дэлегацыя правяла перагаворы ў брытанскім парламенце.

У час візіту беларускія парламентарыі ў інстытуце Адама Сміта абмяркоўвалі пытанні прыватызацыі са спікерам палаты абшчын пані Б. Бутройд, дырэктарам Усходнееўрапейскага савета па гандлю Дж. Макнейш. Намечана таксама сустрэча з беларусамі, якія пражываюць у Брытаніі, і «Згуртаваннем беларусаў Вялікай Брытаніі», што адбудзецца ў адзіным у Заходняй Еўропе і першым у свеце беларускім культурным цэнтры ў Лондане.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь – Белінфарм.**

## "КАМПРАМІС"

**Канстытуцыйны суд у рэшце рэшт прыслухаўся да вокрыку прэзідэнта і "прыняў рашэнне", якое "задаволіла" абодва бакі: "прэзідэнцкая вертыкаль" з Мінска будзе будавацца толькі да райцэнтраў. У вёсках жа ўлада застанецца старая – савецкая, сельсаветаўская. Ці гэтым павінен займацца Канстытуцыйны суд? Бо галоўнага ён так і не зрабіў: адказу на пытанне "Ці адпавядае прыдуманая прэзідэнтам "вертыкаль" нашай Канстытуцыі?" – мы не пачулі...**

BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Беларускія фермеры будуць вучыцца лепш жыць

—«Народная газета»

І адбудзецца гэта хутка — 29—30 лістапада ў г. Жлобіне. Менавіта тут адкрыецца іх рэспубліканскі семінар.

Гасцей, а дакладней — удзельнікаў яго, чакаецца шмат. Зараз у нашай краіне ўжо больш за 3000 фермерскіх гаспадарак, у валоданні якіх знаходзіцца каля 55 000 гектараў сельгасугоддзяў.

Працаваць і "выкручвацца" ў моры сучасных фінансава-матэрыяльных праблем "вольным хлебаробам" цяжка. Але ж справа патроху ідзе. Ёсць і поспехі, якімі не сорамна ганарыцца. Напрыклад, многія фермерска-сямейныя гаспадаркі сабралі сёлета з гектара па 30—40 цэнтнераў збожжа, 180—200 цэнтнераў бульбы, нарыхтавалі ўдосталь кармоў.

— На жаль, так справа ідзе не ўсюды і не ва ўсіх, — зазначыў старшыня Беларускага саюза фермераў Канстанцін Ярмоленка. — Некаторыя фермеры становяцца банкрутамі, іх гаспадаркі не працуюць...

Сярод прычын гэтага акрамя фінансава-матэрыяльных праблем можна адзначыць слабую тэарэтычную падрыхтоўку фермераў, няведанне імі прагрэсіўных тэхналогій вытворчасці і асабліва захоўвання і перапрацоўкі сабранага ўраджаю.

Балячкі, як бачым, сходныя з тымі, якімі хварэюць і калгасы-саўгасы. І таму семінар плануецца правесці па армейскаму прынцыпу: рабі, як я. Фермеры пазнаёмяцца з аптымальнай планіроўкай фермерскай сядзібы, убачаць на практыцы, як будаваць сховішча для тэхнікі, караняплодаў, рэканструяваць малыя фермы, арганізоўваць перапрацоўку малака і мяса. Будзе паказана і работа невялікага лесапільнага цэха. Фермеры даведаюцца аб вопыце развядзення рыбы ў невялікіх сажалках, убачаць лепшыя праекты дамоў сядзібнага тыпу і многае іншае.

**Павел СТАСЕВІЧ.**

Міхаіл МАРЫНІЧ:
# "БЕЛАРУСЬ ШУКАЕ РЫНКІ ЗБЫТУ СВАЁЙ ПРАДУКЦЫІ"

***«З нагоды» становішча, якое склалася на сусветных гандлёвых рынках збыту беларускай прадукцыі, на пытанні карэспандэнта «Звязды» адказвае міністр знешнеэканамічнага ведамства Беларусі Міхаіл МАРЫНІЧ.***

**— Замаруджванне тэмпаў далучэння Беларусі да сусветнай гандлёвай арганізацыі «Генеральнае Пагадненне па тарыфах і гандлю (ГАТТ)» было шмат у чым справакавана самой Беларуссю. Што мы парушылі?**

— Беларусь парушыла нормы, усталяваныя ГАТТ у гандлі калійнымі ўгнаеннямі. У рамках гэтай арганізацыі ёсць адпаведныя пагадненні паміж вытворцамі калійных угнаенняў, дзе агаворваецца ўзровень цэн на гэтую прадукцыю. Зніжаць цану нельга, бо гэта патэнцыяльна можа выклікаць зніжэнне цаны і ў іншых краінах-вытворцах. Беларусь паспрабавала гэта зрабіць, і сёння наша прадукцыя падвяргаецца антыдэмпінгавым праследаванням: 1/3 калійных угнаенняў з Беларусі не трапіла на экспарт. Мы імкнуліся кампенсаваць згублены рынак рынкамі Кітая, Індыі і г. д. Але Беларусь парушыла нормы ГАТТ толькі па калійных угнаеннях. Калі ж браць тую ж Расію, то ў яе 28 парушэнняў на экспартуемых таварах.

**— Якія захады робіць Беларусь, каб выправіць становішча?**

— Я спадзяюся, што мы адпрацуем пагадненні па ўступленню ў ГАТТ. Зараз выпрацоўваецца мемарандум, у якім знойдуць адлюстраванне заўвагі экспертаў ГАТТ.

**— Пасля наведвання 40-й Паўночнаатлантычнай асамблеі, на эканамічным камітэце якой абмяркоўваліся перспектывы ГАТТ, Мечаслаў Грыб заявіў, што далучэнне да ГАТТ адбудзецца ў пачатку 1995 года. Ці рэальны гэты тэрмін?**

— Будзе вельмі добра, калі аптымістычныя прагнозы М. Грыба спраўдзяцца.

**— З новага года ГАТТ ператвараецца ў Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА). Ці не атрымаецца, што Беларусі прыйдзецца паўторна праходзіць шлях, які яна ўжо прайшла?**

— Разам з прапрацоўкамі з ГАТТ ідзе паралельны працэс з СГА, што выключае дубліраванне. Мемарандум Беларусі, будзе разгледжаны не толькі ГАТТ, але і СГА.

**— Якія асноўныя рынкі збыту нашых калійных угнаенняў і ці пашырацца яны пры далучэнні да ГАТТ?**

— Асноўныя рынкі збыту — Францыя і Іспанія. Але для Беларусі вельмі важна вярнуць тыя аб'ёмы паставак, што мы мелі ў краінах Усходняй Еўропы, — Чэхіі, Славакіі, Венгрыі і г. д.

**— Гэта значыць — у краінах Вышаградскай групы. М. Грыб вылучае ініцыятыву далучэння да яе Беларусі.**

— Так, гэта рэзерв Беларусі. Далучэнне да Вышаградскай групы дасць магчымасць Беларусі рэалізоўваць свае тавары ў краінах Вышаградскай групы без вялікіх пошлін на ўвоз.

**— А таксама дасць выхады Беларусі да нарвежскай нафты?**

— Сёння галоўны пастаўшчык нафты і газу на Беларусь — Расія. Але порты на Балтыцы і атрыманне праз іх нарвежскай нафты — рэальная перспектыва, якую трэба вывучаць. Мы павінны зрабіць эканамічнае супастаўленне розных варыянтаў закупкі энергарэсурсаў для Беларусі.

**— Пры далучэнні да Вышэградскай групы Беларусь павінна ўлічваць не толькі эканамічны, але і палітычны аспекты. Членства Беларусі ў Вышаградскай групе выкліча абмежаванні ў адносінах з Расіяй?**

— Не выкліча. Такіх умоў перад Беларуссю не ставяць. Пры цяперашнім становішчы адмаўляцца ад рынкаў Расіі Беларусь не можа.

**— Зыходзячы з вашых слоў далучэнне да ГАТТ і Вышаградскай групы — перспектыва далёкая. Ці ёсць нейкія зрухі пасля апошняй сустрэчы ў Брусэлі па асваенню Беларуссю рынкаў Заходняй Еўропы?**

— Да гэтай сустрэчы Камісія Еўрапейскай супольнасці нават думкі не дапускала аб адкрыцці для Беларусі сваіх рынкаў — з намі проста не жадалі размаўляць. Пасля сустрэчы становішча палепшылася, і на гэтым тыдні па дыпламатычных каналах мы накіравалі запыт у Брусель. Гэта азначае, што перамоўны працэс пачаўся і справа зрушылася з мёртвага пункта.

*"Звязда"* **Рубрыку вядзе Юрась КАРМАНАЎ.**

# «ВАРШАЎСКІ МОСТ» РАССЛАБІЦЦА

Падобна, адкрыццё новага пагранпераходу «Дамачава—Славоціны» на беларуска-польскай граніцы, якое неаднаразова адкладвалася, усё ж адбудзецца ў гэтым годзе.

Аб гэтым дагаварыліся днямі ў Бяла-Падлясцы кіраўнікі мытных камітэтаў і прадстаўнікі органаў улады дзвюх дзяржаў. Першыя аўтатурысты, маркуючы па ўсім, перасякуць новы пагранпераход у другой палове снежня. Характэрна, што сумесны пагранічны і мытны кантроль плануецца ажыццяўляць выключна на польскім баку граніцы.

Звязда **Алег СУПРУНЮК, РІД.**

## Падзея

Сёлетняй восенню спаўняецца 74 гады падзеям лістапада—снежня 1920 года, калі слуцкія сяляне, маючы на мэце абарону незалежнасці Беларусі ад пасягненняў бальшавіцкай Расіі і Польшчы, паднялі ўзброенае паўстанне. Яно было задушана, а звесткі аб ім замоўчваліся.

У мінулыя выхадныя ў вёсцы Грозава, дзе быў створаны адзін з палкоў паўстанцаў, пабывала дэлегацыя прадстаўнікоў Беларускага народнага фронту. Быў устаноўлены і асвечаны памятны крыж, з удзелам мясцовых жыхароў праведзены невялікі мітынг.

"Народная Газэта" **Сяргей ГРЫЦ, фота аўтара.**



# А навошта гэты „беларускі"?

„Сорам Беластоку", — пісала ў 41 нумары „Нівы" Лена Глагоўская, „кампраметуючая нас справа", — гаварыў падчас канферэнцыі, прысвечанай школьніцтву ў Бельску-Падляшскім Аляксандр Іванюк. А ўсё гэта з прычыны таго, што ў горадзе, у якім жыве каля 80 тысяч людзей беларускага паходжання, няма ніводнай школы, ніводнага класа, у якім навучалася б беларуская мова. Якога б не шукаць апраўдання такой сітуацыі, усё адно — гэта кампраметацыя беластоцкіх беларусаў. Праўда, Беласток — гэта спецыфічны горад, сталіца ўсякіх мутантаў, а яго атмасфера не спрыяе захаванню нацыянальнай іншасці. Пытанне: „А ці не лепей вам выехаць у Менск?" — гучыць апошнім часам штораз часцей. Відаць пры гэтым, аднак, і пэўны прагрэс, бо раней усё пасылалі ў Маскву і ў Маскву.

Тым не менш адсутнасць навучання беларускай мовы ў Беластоку гэта ў дзевяноста працэнтах віна самых беларусаў. Закон выразна гаворыць, што калі б у школе было 7 вучняў ахвотных вывучаць родную мову, дырэктар вымушаны быў бы знайсці настаўніка. А ў кожнай жа школе дзесяткі, калі не сотні вучняў беларускага паходжання. Затым дзе яны? У большасці гэтыя людзі толькі беларускага паходжання, але не беларусы. Асіміляцыйны працэс захапіў ужо іх бацькоў, а ў некаторых выпадках таксама дзядоў. Усялякая беларуская ідэя большасці дзетак зусім чужая. Школа і дом выхавалі іх на палякаў. Праваслаўе, праўда, дае нейкія падставы захавання іншасці, але іншасць гэтая не абазначае беларускасці.

Не раз ужо ў Беластоку рабіліся спробы пачаць навучанне беларускай мовы, хаця б у сімвалічнай форме, каб быў нейкі пачатак, каб пераламаць псіхалагічныя бар'еры тутэйшых беларусаў. У 1983 г. Мікалаю Гайдуку ўдалося нават сарганізаваць групу вучняў у адным з беластоцкіх ліцэяў, знайсці настаўніцу і пачаць заняткі. Вакол гэтых маладых людзей зрабілася аднак такая атмасфера, што вымушаны яны былі памяняць школу. Два гады (1992—1993) змагаўся за стварэнне ў пачатковай школе ў цэнтры горада групы для навучання беларускай мовы спадар Уладзімір Паўлоўскі. Праяўляючы клопат пра нацыянальную адукацыю сваіх дзетак, спадар Паўлоўскі шукаў саюзнікаў сярод іншых бацькоў. Хадзіў да суседзяў, знаёмых, пераконваў, заклікаў. Не ўдалося. Паспрабаваў і я пайсці шляхам Паўлоўскага. Вынік атрымаўся такі ж. — А по цо то потшэбнэ? — До чэго пшыда се тэн бялорускі? — В Польсцэ мешкамы і естэсьмы полякамі, тылько жэ праваслаўнымі. — По цо нашэ дзеці маё вытыкаць пальцамі в школе? — чуў я ў адказ.

Ці справа зусім безнадзейная? Не. Навучанне беларускай мовы магчыма пры ўмове, што будзе гэта школа, якой адметнай рысай было б менавіта навучанне гэтай мовы. Найбольш рэальным варыянтам можа быць школа тыпу ліцэя. Кожны пачынаў бы там вучыцца згодна са сваім выбарам. Вучні не мелі б праблем, як растлумачыць настаўніку, што 7 студзеня святкуюць Каляды, а 13 — Новы год. У Беластоку, дзе ёсць звыш 10 ліцэяў, зусім прыстойна было б, калі б у адным прынамсі некалькі прадметаў навучаліся на беларускай мове. А і ўладам горада была б магчымасць паказаць замежнікам яго еўрапейскі характар, даказаць, што традыцыя талерантнасці гэта не толькі шаснаццатае стагоддзе Рэчы Паспалітай, але і сённяшні дзень. А і ўсе „беларускія нацыяналісты" хвалілі б краіну, у якой пашанцавала ім жыць, паказваючы, што беларускі дух тут лепшы, чым у самой Рэспубліцы Беларусь.

На сённяшні дзень, аднак, усё вышэйсказанае выглядае на казачны свет. Ідэя такая магла б ажыццявіцца толькі ў выпадку аб'яднання вакол яе ўсіх свядомых беларусаў Беластока. Але помнік варта было б паставіць таму (нават яшчэ пры жыцці), каму ўдалося б дасягнуць такую мэту.

*Аўген Міранович*

*"НІВА"*

Ларыса Языковіч

"Беларускі Гістарычны Часопіс"

# РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ



(Заканчэньне. Пачатак у папярэднім № газэты)

У заходнееўрапейскіх краінах, дзе апынулася значная колькасць беларусаў пасля другой сусветнай вайны, пераважная колькасць насельніцтва — каталікі. Таму і беларусы рыма-каталіцкага веравызнання мелі там больш шырокае, чым праваслаўныя, поле дзейнасці, атрымлівалі маральную і матэрыяльную падтрымку з боку Ватыкана. Дзякуючы гэтаму для вернікаў-беларусаў на эміграцыі з цягам часу былі створаны спрыяльныя ўмовы. Былі выдадзены малітоўнікі для ўсходняга і лацінскага абрадаў, з'явіўся беларускі каталіцкі друк на эміграцыі. Сярод беларускіх каталіцкіх часопісаў, якія выдаваліся на эміграцыі, былі такія, як "Божым шляхам", "Зніч", "Слова Божае", "Беларус на чужыне", "Адраджэнне" і інш. Некаторыя з іх з цягам часу спынілі сваё існаванне, іншыя працягваюць працу і ў нашы дні, напрыклад, бюлетэнь "Хрысціянскія навіны", які выдаецца ў Рыме.

Радыё Ватыкана першым з 1950 г. пачало рыхтаваць беларускія перадачы[17]. Кіраўніком беларускай секцыі ватыканскага радыё ў 50-я гады быў ксёндз П. Татарыновіч, беларус па паходжанні[18]. Гэтыя радыёперадачы працягваюцца і ў наш час. Змест іх пераважна рэлігійны, але ёсць матэрыялы па гісторыі Беларусі, яе культуры, сучасным жыцці. Зараз беларускай секцыяй радыё Ватыкана кіруе айцец Р. Тамушанскі, таксама прадстаўнік беларускай эміграцыі.

У каталіцкіх універсітэтах Еўропы разам са студэнтамі іншых краін атрымлівалі дапамогу ў набыцці адукацыі беларускія студэнты. Найбольш вядомым у гэтых адносінах з'яўляецца каталіцкі універсітэт у бельгійскім горадзе Лювэне, які вызначыў 40 стыпендый для студэнтаў-беларусаў. У тых краінах, дзе знайшліся беларускія каталіцкія святары, а таксама вернікі-беларусы, з дазволу Ватыкана і дзяржаўных улад гэтых краін былі ўтвораны беларускія каталіцкія місіі. Іх кіраўнікамі прызначаліся беларусы. Так, у Англіі рэктарам Беларускай рэлігійнай каталіцкай місіі ў першыя пасляваенныя гады быў Чэслаў Сіповіч, у Францыі — Леў Гарошка, у Германіі — Міхась Маскалік, у Бельгіі — Францішак Чарняўскі. Папа Рымскі прызначыў для беларусаў-католікаў заходняга і ўсходняга абрадаў у Заходняй Еўропе асобнага Апостальскага візітатара. З 1952 г. ім з'яўляўся біскуп Б. Слосканс, яго змяніў П. Татарыновіч, потым Ч. Сіповіч. У наш час Апостальскім візітатарам для беларусаў-католікаў абодвух абрадаў з'яўляецца айцец Аляксандр Надсан[19].

Многія каталіцкія святары — гэта, па сутнасці, інтэлектуальная эліта беларускай эміграцыі. Я. Германовіч, П. Татарыновіч, Л. Гарошка, Ф. Чарняўскі, Ч. Сіповіч, М. Маскалік, А. Надсан — не толькі рэлігійныя дзеячы, але і літаратары, публіцысты, вучоныя-тэолагі. Жыццё і дзейнасць кожнага з іх уяўляе сабой пэўную цікавасць. Напрыклад, Ч. Сіповіч стаў першым каталіцкім біскупам — беларусам па паходжанні.

Найбольш вядома сёння дзейнасць Беларускай каталіцкай місіі у Вялікабрытаніі, якая вядзе вялікую душпастырскую, харытатыўную*, культурна-грамадскую працу сярод беларускіх эмігрантаў у Англіі. З дапамогай Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі, ахвяраванняў простых вернікаў, а таксама з фінансавай падтрымкай Ватыкана ў Лондане быў абсталяваны беларускі дом, названы Марыянскім (Marian House) у гонар святой дзевы Марыі. У доме ёсць царква св. Пятра і Паўла. У 1961 г. побач з Марыянскім домам была адчынена школа імя св. Кірылы Тураўскага. У ёй вучыліся беларускія хлопцы незалежна ад іх веравызнання[20]. У 1971 г. тут створана беларуская бібліятэка імя Францыска Скарыны[21]. Шмат сіл для яе стварэння прыклалі Я. Германовіч, Л. Гарошка, Ч. Сіповіч. Зараз бібліятэкай імя Ф. Скарыны ў Лондане кіруе А. Надсан. Яна з'яўляецца добра вядомай навуковай і культурна-асветнай установай, мае амаль 15 тыс. кніг пераважна на беларускай мове, альбо тых, якія маюць дачыненне да Беларусі, з'яўляецца адной з багацейшых у заходнім свеце на матэрыялы па беларусазнаўству. Бібліятэка мае шмат рэдкіх кніг, газет, беларускіх часопісаў, якія перад другой сусветнай вайной друкаваліся ў Вільні і іншых гарадах. Пры ёй захоўваюцца архівы беларускіх пісьменнікаў, палітычных і рэлігійных дзеячаў на эміграцыі, у прыватнасці, архіў Ч. Сіповіча. Тут паступова склаўся невялікі беларускі музей, у якім захоўваюцца гістарычныя, мастацкія, этнаграфічныя каштоўнасці беларусаў — старажытныя манеты, геаграфічныя карты, настольнікі, ганчарныя вырабы, гравюры, абразы, паштоўкі, творы беларускіх мастакоў і г. д. З беларускай бібліятэкай і музеем у Лондане супрацоўнічае Англа-беларускае навуковае таварыства ў Вялікабрытаніі, а таксама Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі. Прыкладам такога супрацоўніцтва была навуковая канферэнцыя "Уніяцкая царква на Беларусі", якая адбылася ў Лондане ў 1991 г. і была прысвечана 20-годдзю стварэння бібліятэкі[22].

У апошнія гады, калі многае мяняецца на Беларусі, калі адыходзяць паступова ў нябыт ідэалагічныя стэрэатыпы накшталт таго, што ўсе прадстаўнікі беларускай эміграцыі былі здраднікамі ці шпіёнамі, з'явілася магчымасць для ўсталявання сувязей паміж беларускай эміграцыяй і Бацькаўшчынай. Прадстаўнікі БНФ былі ў ліку першых, хто наладзіў такія сувязі з айцом А. Надсанам. Сам ён часта бывае на Беларусі, дзе сустракаецца з дзеячамі культуры, навукоўцамі, моладдзю, служыць набажэнствы для католікаў і уніятаў. А. Надсан адным з першых адгукнуўся на Чарнобыльскую трагедыю ў Беларусі. У 1989 г. у Вялікабрытаніі створаны Беларускі камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі, старшынёю якога быў абраны айцец Надсан. У выніку працы камітэта на Беларусь дастаўлены некалькі транспартаў з лекамі, вітамінамі, медыцынскім абсталяваннем[23].

Можна зрабіць вывад, што рэлігія і царква спрыялі ў значнай ступені таму, што жыццё беларусаў, якія апынуліся на эміграцыі пасля другой сусветнай вайны, набыло адметна выяўленыя нацыянальныя рысы. Менавіта ў гэты час на эміграцыі апынулася па розных, перш за ўсё палітычных прычынах, значная колькасць нацыянальна свядомых беларусаў, асабліва святароў, якія здолелі наладзіць там беларускае рэлігійнае жыццё. Гэтым пасляваенная хваля беларускай эміграцыі карэнным чынам адрозніваецца ад ўсіх папярэдніх.

Сталася так, што ў пасляваенныя гады рэлігійнае жыццё беларускай праваслаўнай эміграцыі найбольш значна засяродзілася ў Злучаных Штатах Амерыкі, у той час як рэлігійнае жыццё беларускай каталіцкай эміграцыі найбольш значным было ў краінах Заходняй Еўропы. З цягам часу гэтая актыўнасць ідзе на спад. Прычыны таму розныя. Па-першае, у 60—70-я гады рэлігійнае жыццё беларускай эміграцыі ўвайшло ў нейкае больш-менш сталае рэчышча. Па-другое, тыя рэлігійныя дзеячы, беларускія святары, якія актыўна ўплывалі на духоўнае жыццё беларускіх эмігрантаў у першыя пасляваенныя гады, з цягам часу па стану здароўя, па ўзросту адышлі ад актыўнай рэлігійнай і грамадскай працы. Добрай замены ім амаль не знайшлося. Па-трэцяе, на эміграцыі працягваецца працэс асіміляцыі беларусаў, далучэння іх да іншых народаў, напрыклад, палякаў, рускіх, украінцаў, літоўцаў на падставе іх веравызнання, альбо растварэнне з цягам часу сярод грамадзян краін пражывання. Дзеці эмігрантаў не заўсёды маюць патрэбу ў нацыянальным рэлігійным жыцці. Трэба адзначыць, што ідэю стварэння нацыянальных беларускіх парафій падтрымлівалі не ўсе беларускія эмігранты, а толькі найбольш нацыянальна свядомыя. Значная колькасць беларусаў ставілася абыякава да праблем нацыянальнай беларускай царквы. Гэта працягваецца і ў нашы дні. Акрамя таго, на сучасны стан рэлігійнага жыцця беларускай эміграцыі адмоўны ўплыў аказваюць палітычныя супярэчнасці, якія існуюць да нашых дзён паміж рознымі плынямі, палітычнымі накірункамі сярод беларускай эміграцыі.

У наш час нацыянальна свядомых беларускіх святароў на эміграцыі няшмат, амаль адзінкі. Гэта датычыць як праваслаўных, так і католікаў, уніятаў. Таму для беларускай эміграцыі зараз даволі востра стаіць пытанне аб нацыянальна свядомых святарах. І ў гэтым беларуская эміграцыя ўскладае пэўныя надзеі на ажыўленне рэлігійнага жыцця на Беларусі, якое адбываецца ў апошнія гады.

---

[1] Гл. В. Кіпель. Беларускія амерыканцы і іх суполкі ў Кліўлендзе. Кліўлендскі дзяржаўны універсітэт. 1982 (на анг. мове). Гл.V. Арганізацыя царквы.//Звіняць званы Святой Сафіі. Часопіс праваслаўных беларусаў. Рэгензбург. 1946, № 6, с. 29; Божым шляхам, 1947, № 3, с. 7.

[2] Русское православие: вехи истории. М., 1989, с. 685.

[3] Гордиенко Н. С., Комаров П. М. Обреченные. О русской эмигрантской псевдоцеркви. Л.,.1988, с. 16.

[4] Божым шляхам. 1954. № 60, с. 20.

[5] Русское православие: вехи истории, с. 642.

[6] Афанасий Мартос. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни: Буэнос-Айрес. Аргентина. 1966. — Мн., 1990, с. 259.

[7] Алесь Вініцкі. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939 — 1951 гадах. Ч. II. Лос-Анжэлес, 1968. с. 2.

[8] Звіняць званы святой Сафіі. 1946, № 5, с. 21—23.

[9] Беларус. 1952, № 40 (10).

[10] Алесь Вініцкі. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939 — 1951 гадах, Ч. I, с. 125.

[11] К. Мерляк. Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Нью-Ёрк, 1992, с. 364.

[12] Беларус. 1992. №№ 389, 390, 391; ЛіМ, 1992, 6 сакавіка; 13 сакавіка.

[13] К. Мерляк. Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі, сс. 382, 388, 393.

[14] Божым шляхам. 1964, № 82, с. 11; Божым шляхам. 1966, № 5, сс. 11—12.

[15] Б. Сачанка. Сняцца сны аб Беларусі. Мн., 1990, с. 282.

[16] А. Мартос. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни, с. 292.

[17] Божым шляхам. 1947. № 1, с. 9.

[18] Божым шляхам. 1950 № 1, с. 14.

[19] Наша слова. 1992, № 2, с. 6.

[20] Божым шляхам. 1967, № 1, с. 2.

[21] The Francisk Skaryna Byelorussian Librari and museum. 1971—1991. London, 1991. p. 1.

[22] Наша слова. 1992 № 2, с. 6.

[23] Навіны Беларускага Народнага фронту "Адраджэнне". 1991, № 1, с. 5.

## Адкліканьне Пасла...

З паведамленняў друку стала вядома аб адкліканні П.Садоўскага з пасады пасла Беларусі ў Германіі. Аб прычынах гэтага акта не гаворыцца, аднак жа... Сярод дыпламатаў, якім было даручана прадстаўляць у краінах свету новую незалежную Беларусь, П.Садоўскі быў у ліку тых нямногіх, якія маглі гэта рабіць прафесійна і годна. Дык чаму ж тады? Няўжо адкліканы ён за тое, што "свядомы беларус" ды прыхільнік БНФ?

"ЛіМ"

## Лічбы, лічбы...

З серады, 30 лістапада, паўлітэрка "Пшанічнай" і "Сталічнай" каштуе 6230 рублёў, а пляшка "Маскоўскай" і "Рускай" адпаведна — 6160 і 6220 рублёў.

Праезд у электрычках з учарашняга дня падаражаў у два з паловай раза.

У сярэднім у два разы ўзраслі тарыфы на паслугі сувязістаў.

На гэтым тыдні ўрад выдаткаваў 9 млрд. рублёў на будаўніцтва жылля ваеннаслужачым і 18 млрд. рублёў для вываду з-пад дэнамінацыі ўкладаў насельніцтва, што былі ўнесены па стане на 1 студзеня 1991 года.

У чарзе на атрыманне жылля стаіць 700 тысяч сем'яў.

Больш за 10 тысяч пенсіянераў атрымліваюць пенсію меншую за мінімальную зарплату, 750 тысяч жывуць менш чым на 25 тысяч рублёў у месяц. Амаль кожны трэці жыхар Беларусі знаходзіцца за рысай беднасці.

70 мінчан бясплатна паабедалі клопатам Беларуская хрысціянска-дэмакратычнага саюза і Мінскага Свята-Петрапаўлаўскага сабора.

Аляксандр Курловіч на чэмпіянаце свету ў Стамбуле ўстанавіў ажно шэсць сусветных рэкордаў. У рыўках ён двойчы фіксаваў вагу 200,5 і 205 кілаграмаў, у штурхках — 252,5 і 253 кілаграмы, а ў суме двухбор'я атрымалася 453 і 458 кілаграмаў.

У нашай краіне зарэгістравана 1538 сумесных прадпрыемстваў і 553 замежныя фірмы. 68 юрыдычных і фізічных асоб з Беларусі ўздзельнічаюць у вытворчай дзейнасці за межамі сваёй дзяржавы. 12 прадпрыемстваў з удзелам беларускага капіталу зарэгістравана ў Польшчы, 8 — у Літве, па 5 — у Аўстрыі, Балгарыі, Венгрыі, 4 — у Кітаі, па 3 — у Германіі і ЗША, па 2 — у Латвіі і Чэхіі, па 1 — у Англіі, Канадзе, Егіпце, В'етнаме, Ліване, Турцыі, Швейцарыі, Іарданіі, Італіі, Румыніі, Мадагаскары, Марока, Бельгіі, Сінгапуры, Галандыі, С'ера-Леоне, Гібралтары, Нігерыі, Нікарагуа...

# МЁРТВЫМ НЕ БАЛІЦЬ

Эсэ

(Спэцыяльна для "Беларускага Дайджэсту")

*Васіль БЫКАЎ*

Аповесьць Васіля Быкава "Мёртвым не баліць" мае сваю адметную літаратурную біяграфію. Адразу пасьля яе публікацыі ў беларускім (і асабліва ў расейскім) друку яна зазнала драпежныя напады савецкай крытыкі, разносныя выступленьні ў "Правде", "Огоньку" ды іншых бальшавіцкіх выданьнях. Але заходнія выдаўцы на тое не зважалі, аповесьць выйшла ў перакладах на шмат якія мовы Эўропы ды Амэрыкі. Толькі не ў Беларусі. Асобнаю кніжкай на беларускай мове яе выдаў вядомы беларуска-амэрыканскі выдавец Мікола Прускі, і тое выданьне на доўгі час стала адзіным беларускім выданьнем шматпакутнай аповесьці.

У гэтым эсэ Васіль Быкаў распавядае пра гісторыю стварэньня і публікацыі твору, пра час і палітыку нядаўняга таталітарнага рэжыму, які панаваў у Беларусі.

* * *

"Мёртвым не баліць" па сваёй сутнасьці зьяўляецца невялічкай старонкай аграмаднай кнігі мінулай вайны, якую працягам дзесяткаў гадоў піша чалавецтва. Шмат што ў той вайне вывучана і зразумета, некаторыя важныя праблемы ўсё яшчэ асэнсоўваюцца і вывучаюцца. У аповесьці-ж знайшоў пэўнае ўвасабленьне толькі адзін эпізод вайны, невялічкая прыватнасьць, у якой, аднак, як мяркуе аўтар, адлюстравалася агульная рыса таталітарызму, што яшчэ нядаўна чыгуннаю навалай душыў значную частку Эўропы. Д'ябальская заканамернасьць, што была характэрная ня толькі для вайны, адбілася таксама і на лёсе гэтае кнігі, што і дало аўтару падставу ўзяцца за пяро, каб што-колечы растлумачыць чытачам.

Ні ў пару свайго юнацтва ні калі пазьней аўтар ня меў жаданага намеру рабіцца пісьменьнікам. Маладосьць звычайна натхняе чалавека да болей канкрэтных і рэальных намераў, і ў тым яе перавага. Бо што можа прынесьці з сабой у вялізны храм літаратуры чалавек малады, без грунтоўных ведаў ды пэўнага вопыту жыцьця? Праўда, паэтычныя здольнасьці, калі не сказаць талент, звычайна праяўляюцца рана, таму, мабыць, большасьць у літаратуры належыць паэтам, людзям аднosна маладым. Але не ў прозе. Проза ў куды большай меры, чымсі паэзія, патрабуе культуры ды асабістага вопыту, што пачынаюць праяўляцца гадоў пад трыццаць пяць. Хоць, вядома, бываюць і выключэньні.

На долю пакаленьня, да якога належыць аўтар, выпала вядомая няволя ў выбары жыцьцёвага шляху, што спарадзіў таталітарны рэжым у краіне і канчаткова сьцьвердзіла вайна. Чалавек быў пазбаўлены нават маленькай магчымасьці распараджіцца сабой, усё за яго вызначала дзяржава, палітыка кіраўнічай бальшавіцкай партыі: і выбар прафэсіі, і месца жыхарства, і сацыяльнае становішча. Гады вайны ў гэтым сэнсе ня сталі ні выключэньнем, ні ўзмацненьнем тае несвабоды. Узмацняць яе ня было ўжо куды, усе сталі салдатамі і моўчкі падпарадкаваліся волі начальства: выконвалі, што загадаюць, ішлі, куды пасылаюць. Ну а куды можна было паслаць васемнаццацігадовага хлопца, які толькі падняўся ад школьнае лаўкі і ўпершыню ступіў у вялікі сьвет, у якім палала вайна? Адзін шлях яму быў вызначаны беззваротна — на фронт, у самае пекла вайны, у пяхоту. Вярнулася з гэтага пекла няшмат. Цяпер падлічана, што ў пакаленьні 1922-24 гадоў нараджэньня ўцалела на гэтай вайне тры чалавекі з сотні. Астатнія ляжаць у брацкіх магілах, раскіданых на вялізарнай прасторы ад Волгі да Эльбы. Молах крывавай вайны сабраў свой багаты набытак.

Доўгі час пасьля заканчэньня вайны аўтар гэтых радкоў ня толькі ня думаў пісаць пра яе, але нават не хацеў чытаць таго, што друкавалася ў савецкай прэсе на тэму вайны. Прычыны чытацкай антыпатыі да такога роду літаратуры цяпер шырока вядомыя. Творча-паліцэйскі мэтад сацрэалізму так ці інакш зьніжаў мастацкі кошт нават больш-менш вартых твораў пра вайну. Амаль усе яны, хоць і ў рознай меры падманьвалі чытача хлусьнёй і каньюнктурнасьцю, уласьцівай для ўсёй савецкай літаратуры. Рэальна перажытое за гады вайны, асабісты вопыт франтавікоў не дапасаваліся да таго, што яны чыталі пра сябе ў раманах савецкіх аўтараў, і тое не магло не выклікаць у іх антыпатыі, якая межавала з агідай.

Тым ня менш жыцьцё прадаўжалася. Адбыліся пэўныя зьмены ў грамадскай атмасфэры краіны, настала нядоўгая хрушчоўская адліга, і пра нядаўна перажытую вайну ўсё-ж зьявіліся праўдзівыя кнігі. Іх паяўленьне крытыка зьвязвае перш за ўсё з так званаю лейтэнанцкай прозай, прэзэнтаванай імёнамі Бондарава і Бакланава, якія напрыканцы пяцідзесятых гадоў надрукавалі свае славутыя аповесьці "Батальёны просяць агню" і "Пядзя зямлі". Менавіта ў гэтых кнігах, можа быць, упершыню ў савецкай баталістыцы, паўстала тая жорсткая праўда пра вайну, якое так не хапала савецкаму мастацтву. У аснову галоўнай ідэі твору тут клаліся не артадаксальныя палітычныя схемы, не чарговыя партыйныя ўстаноўкі, але вопыт жыцьця, вайна, перажытая аўтарамі. Бясспрэчная гэта тэза, выклікала, аднак, буру нязгоды ў партыйнай прэсе, артадаксальныя крытыкі не пакінулі каменя на камені ад няшчасных твораў. Ды марна! Зерне ісьціны было кінута ў засохлую глебу, якая, здавалася, зусім перастала радзіць і цяпер дала добрую рунь. Пад той час на ідэялагічным небасхіле праблíснула зорка дэмакратыі, XX зьезд асудзіў Сталіна і сталінізм. Зьявілася надзея.

"Мёртвым не баліць" была задумана аўтарам напачатку 60-х гадоў, аднак, яе ажыцьцяўленьне адсунулася на нейкі час дзеля іншых сюжэтаў, якія здаваліся болей прывабныя. Зноў-жа, меркавалася, што час, найболей прыдатны для яе паяўленьня, усё не настаў, мера праўды жыцьця, што была дазволена ў літаратуры, усё ня была адэкватна характару задумы. Аўтар чакаў, марнуючы час. Сюжэт не вымагаў ад яго вялікага клопату — гэта быў звычайны баявы эпізод-выпадак, так ці інакш перажыты шмат кім з франтавікоў, асабліва з тых, што ваявалі ў пяхоце. Праўда, у літаратуры пра вайну сюжэты такога кшталту ня былі надта хадавыя, аўтары-баталісты аддавалі перавагу іншым сытуацыям, якія дзеля займальнасьці хоць і вымушалі на пэўныя хваляваньні, але канчаліся добра. Абавязкова — перамогай ды заслужонымі ўзнагародамі. Для аўтара-ж гэты ягоны эпізод, сапраўды перажыты на фронце ўзімку 1944 году, ледзьве ня скончыўся трагічна, і толькі выпадак уратаваў яго ад пагібелі. У сьнегавым стэпе пад Кіравaградам на Ўкраіне нямецкі танк мала не раздушыў параненага лейтэнанта, які ў апошні момант неяк выкруціўся з-пад ягонай гусеніцы, пакінуўшы пад ёй шматкі свайго шыняля. Пасьля было некалькі сутак драматычных прыгодаў групы параненых, што апынуліся ў тыле нямецкага войска, некаторыя з гэтае групы загінулі, іншым пашчасьціла выбрацца. У час гэтых шалёных сутак, мабыць, праявілася ўсё лепшае, на што здольныя былі людзі, таксама як і ўсё кепскае, што ішло з прадоньня людзкое натуры. Зразумела, што ўсё тое, перажытае аўтарам у маладым узросьце, адклалася ня толькі ў ягонай памяці, але таксама і ў ягонай сьвядомасьці і патрабавала выйсьця, творчай рэалізацыі. Асабліва з таго часу, як аўтар заняўся літаратурай.

Болей складана сталася з пэрсанажамі аповесьці. Асабліва з яе самай дзейнай асобай, якім зьяўляўся Сахно. Тут патрэбна некаторае адступленьне з тлумачэньнем пэўных абставін, мала вядомых некаторым чытачам. Асабліва маладым і замежным.

Справа ў тым, што арганізацыя савецкай (ці ў час сусьветнай вайны чырвонай) арміі была па сваім характары штосьці не зусім звычайнае для традыцыйнай эўрапейскай арміі. Як, напэўна, і ўсе арміі сьвету, яна складалася з салдатаў да камандзіраў, што ўтвараў афіцэрскі ды генеральскі корпус, а таксама сяржантаў і старшынь у якасьці ўнтэрафіцэраў. Тут усё як звычайна, як і ў старой расейскай арміі. Але яшчэ ў гады грамадзянскай вайны ў ёй быў устаноўлены інстытут вайсковых камісараў — сыстэма, якая пасутнасьці дублявала амаль усе афіцэрскія пасады і складала гэтую непаўторную, а дакладней парадаксальную, асаблівасьць чырвонай арміі. На пачатку вайны Сталін зрабіў спробу абмежаваць гэты аграмадны камандзірскі дубль, пераўтварыўшы памянёны інстытут у інстытут намесьнікаў камандзіраў па палітычнай частцы. Аднак функцыі гэтых людзей асабліва ў баявых умовах, былі няпэўныя, прыблізныя і пасутнасьці непатрэбныя ў войску, баявая дзейнасьць якога патрабавала канцэнтраванага кіраўніцтва. Другой асаблівасьцю чырвонай арміі была надзвычай высокая насычанасьць яе аддзелаў карнымі органамі — трыбуналамі, пракуратурай, органамі контр-разьведкі, вядомымі пад умоўнаю назваю СМЕРШ (сьмерць шпіёнам). Намінальным абавязкам усіх гэтых структураў было выяўленьне і кара шпіёнаў ды лазутчыкаў, засланых ворагам, і тое можна было-б зразумець. Аднак з прычыны перанасычанасьці войска гэтымі карнікамі і не такой ужо і вялікай колькасьці ворагаў сапраўдных, яны ў сваім службовым стараньні спрэс займаліся выкрыцьцём ворагаў уяўных. Самым улюбёным і лёгка даступным, як заўжды, было абвінавачаньне ў антысавецкіх размовах. Дзесяткі, калі ня сотні тысяч салдатаў і афіцэраў у тыле і на фронце паплаціліся воляй а то і жыцьцём за празмерную даверлівасьць у размовах, за скаргі на нядбайнае камандаваньне, кепскую зброю і нават на беднае харчаваньне, ня кажучы ўжо пра добрыя водгукі пра нямецкую тактыку ці нямецкую зброю. Як і ў даваенныя трыццатыя гады ў войску на фарміроўках і адпачынку афіцэры СМЕРШа шырока вербавалі тайных агентаў, сэксотаў, пераважна з ліку камсамольцаў, камуністаў, камандзіраў, якія ў чымсьці праштрафіліся. Дзякуючы дакладам гэтых людзей яны ведалі ўсё пра размовы, настрой, усе буйныя і дробныя сакрэты, факты ўсемагчымай "амаралкі". Салдаты і афіцэры адносіліся да іх са зьмешаным пачуцьцём страху і агіды, выдатна разумеючы, аднак, што лёс кожнага знаходзіцца ў поўнай уладзе гэтых вайсковых апрычнікаў. Іх пабойваліся нават старэйшыя афіцэры, камандзіры палкоў і дывізыяў, а то і вышэй, якім пры самым малым падазрэньні ці непрыязьні мажліва было сапсаваць кар'еру а то і жыцьцё. І тут не ратавала ні ранейшая бездакорная служба, ні зоркі на пагонах, ні высокія ўзнагароды, — ніхто ня мог аберагчы ад замаху СМЕРШа — ні сябра, ні вялікі начальнік. Той вайсковец, на якога падала іхняе падазрэньне, быў асуджаны. Зрэшты, гэта была звычайная справа, пра яе ведалі ўсе, нават дзеці. Але ўслых пра тое наважваліся гаварыць нешматлікія, хіба самыя верныя сябры адзін на адзін, большасьць-жа маўчала. Маўчала пра тое і літаратура. Вобразы чэкістаў, якія часам паяўляліся на старонках вайсковых раманаў, з усяе моцы прыўзьнімаліся аўтарамі і выглядалі высокароднымі, справядлівымі і сымпатычнымі. У тым і быў так званы сацыяльны заказ партыі ў стварэньні вобраза свайго вернага паслугача — чэкіста.

Безумоўна, аўтар "Мёртвым не баліць" праявіў пэўную рызыку і яшчэ большую саманадзейнасьць, ствараючы на сваіх старонках вобраз палкавога сьмершаўца без прыкрасаў, кіруючыся ўласным вопытам, уласным разуменьнем праблемы, нямала рызыковай для таго драматычнага часу.

Рашаючую ролю ў ягоным намеры адыгралі, напэўна, пачуцьцё пратэсту разам з падсьвядомым імкненьнем да ісьціны, якая так ці інакш таілася ў глыбіні душы прыніжанага чалавека, як і прыгнечанага народу. Хацелася сказаць свае слова і зрабіць гэта ня так, як рабілі іншыя, як прынята было рабіць у савецкай літаратуры. Пра наступства тады не думалася, толькі-б надрукавацца, што па тым часе сапраўды было немалой праблемай. Літаратурныя часопісы пільна адбіралі ўсё, што да іх прысылалі, не дапускаючы ніякіх разыходжаньняў з агульнапрынятымі партыйнымі ўстаноўкамі.

На беларускай мове аповесьць была надрукавана ў часопісе "Маладосьць" у 1965 годзе. Цяпер ужо цяжка з упэўненасьцю вызначыць, чаму яна там прайшла ў друк, — можа, па недагляду працаўнікоў рэдакцыі, хоць

галоўны рэдактар Пімен Панчанка паставіўся да яе дабразычліва. Мабыць, ягоная пазыцыя ўсё і рашыла. Беларуская прэса адгукнулася на аповесьць стрымана, але ўвогуле дадатна. Тое самае галоўнае, што было ў ёй, крытыкай замоўчвалася, выносілася ў падтэкст крытычных пасажаў. І мабыць, правільна рабілася, каб не завастраць на тым увагу партыйных наглядчыкаў. На расейскую мову аповесьць пераклаў маскоўскі літаратар М. Гарбачоў і прапанаваў яе ў часопіс "Новый мир".

"Новый мир" па тым часе рэдагаваў выдатны расейскі паэт Аляксандр Твардоўскі. Дзякуючы падтрымцы Н. Хрушчова ён зрабіў часопіс рупарам новага дэмакратычнага накірунку ў савецкай літаратуры, надрукаваў нямала антысталінскіх твораў, у тым ліку і вядомую аповесьць дэсідэнта А. Салжаніцына "Адзін дзень Івана Дзянісавіча". Першы ацаніў "Мёртвых" намесьнік Твардоўскага, літаратурны крытык А. Кандратовіч, які тэлеграмай паведаміў аўтару, што аповесьць рыхтуецца да друку. Рэдагаваньне яе ўвогуле не выходзіла за рамкі звычайнай працы над празаічным тэкстам. Зразумела, давялося зьняць некаторыя асабліва вострыя месцы, паправіць стыль, але рабілася гэта ўмерана, з павагай да асноўнай аўтарскай ідэі. Аповесьць выйшла ў двух нумарах "Новага мира" за 1966 год.

І, здаецца, спазьнілася.

Справа ў тым, што менавіта ў гэтыя гады пасьля крамлёўскага перавароту і зьняцьця Хрушчова адбыўся яўны адкат партыйнай палітыкі да яе прасталінскіх пачаткаў. У Маскве было разгромлена некалькі дэсідэнцкіх групаў, уведзены ў публіцыстыку хлёсткі кадэбэшны тэрмін "ідэялагічная дывэрсія", ва ўсіх выданьнях узмацнела палітычная цэнзура. Планавалася поўная рэабілітацыя Сталіна, і толькі катэгарычны ліст у ЦК вялікай групы расейскай інтэлігенцыі ня даў зрабіць тое. У канцы зімы 1966 году адбыўся чарговы зьезд кіруючай таталітарнай партыі, які ўзаконіў яе новы курс. Сьвежай ідэялагічнай сьцюжай дыхнула на ўсю краіну.

У літаратуры і публіцыстыцы ўзмоцнена, пад неба паднімалася сакральная роля партыі ў жыцьці грамадзтва, і без таго ідэялізаваны вобраз чэкіста набыў анёльскія рысы прарока на грэшнай зямлі, што кішэла ідэялагічнымі дывэрсантамі ды агентамі сьпецслужбаў замежных дзяржаваў. Натуральна, што паяўленьне ў такой атмасфэры літаратурнага твору з супрацьлеглай ідэёвай скіраванасьцю не магло не выклікаць палітычнага перапуду. Не пасьпеў "Новый мир" скончыць публікацыю аповесьці, як партыйны афіцыёз газэта "Правда" надрукавала вялізны артыкул супраць часопіса і ягонай публікацыі. Характэрна, што аўтарам гэтага артыкулу стаў малады кар'ерыст, слухач вышэйшага партыйнага коледжа ў Маскве, беларус з паходжаньня У. Сеўрук, які быў тады-ж заўважаны партыйнымі бонзамі і прыняты ў штат супрацоўнікаў дома на Старой плошчы. Пачалася шалёная атака на часопіс, ягонага рэдактара, няшчасную аповесьць і яе аўтара. Напэўна, кожнае партыйнае выданьне ў сталіцы і правінцыі лічыла сваім абавязкам надрукаваць разносны артыкул пра твор, які "зьняважаў сьвяшчэнны подзьвіг савецкага народу ў вялікай айчыннай вайне", "чорнымі хварбамі пэцкаў гераічныя вобразы абаронцаў радзімы", "сказіў сутнасьць нашай барацьбы з нямецкім фашызмам", "убіў клін у дружбу ўкраінскага і беларускага народаў". Як гэта ў нас было прынята, з артыкуламі выступалі ня толькі прафэсійныя літаратары або журналісты, але і шараговыя чытачы, былыя франтавікі ды партызаны. Маршал Конеў з гневам пісаў у "Военно-историческом журнале", што аўтар аповесьці зганьбіў яго як камандуючага фронтам, які за кіравагградзкую апэрацыю быў узнагароджаны ордэнам Леніна. Знаўцы літаратуры, мовы і стылю прад'яўлялі аўтару масу спэцыфічных прэтэнзіяў, франтавікі прыдзіраліся за вайсковыя недакладнасьці, партыйныя ідэёлагі дакаралі за парушэньне прынцыпаў марксіцка-ленінскай эстэтыкі. Але ніхто ні ў адным артыкуле не сказаў проста і шчыра пра свой галоўны клопат, дзеля якога і пачаўся ўвесь той сыр-бор, пра жахлівы замах аўтара на чысьціню чэкісцкага мундзіра, у які быў апрануты адзін з галоўных пэрсанажаў твору — штабны капітан Сахно. Усе рабілі выгляд, быццам Сахно — звычайны страявы камандзір (некаторыя напіралі на тое, што ён украінец, хоць з такім прозьвішчам ён мог быць і беларусам або расейцам ці належаць да якой іншай славянскай нацыянальнасьці), капітан, якога са злымі намерамі зганьбаваў аўтар. Гэты трывіяльны прыём падмены даваў аўтарам артыкулаў падставу залічыць аўтара аповесьці ў лік антыпатрыётаў і паклёпнікаў на слаўнае савецкае афіцэрства.

(Далей будзе)

# МЕЧАСЛАЎ ГРЫБ ЗАДАВОЛЕНЫ ВЫНІКАМІ ВІЗІТУ БЕЛАРУСКАЙ ДЭЛЕГАЦЫІ Ў ЗША

Пасля вяртання з ЗША, дзе беларуская дэлегацыя на чале з Мечаславам Грыбам з 14 па 18 лістапада прымала ўдзел у рабоце 40-й сесіі Паўночнаатлантычнай Асамблеі, была праведзена прэс-канферэнцыя.

Асноўнай мэтай візіту, па словах М. Грыба, было выступленне кіраўніка беларускай дэлегацыі на пленарным пасяджэнні 40-й сесіі. Яно было прысвечана натаўскай праграме «Партнёрства дзеля міру», а таксама магчымасці пашырэння НАТО. Нагадаю, што Беларусь — адзіная еўрапейская краіна, якая не далучылася да «Партнёрства». Каменціруючы гэты факт, М. Грыб адзначыў, што ні ваенная дактрына Беларусі, ні Канстытуцыя Беларусі не пярэчаць уступленню Беларусі ў «Партнёрства». Пералічваючы прычыны прамаруджвання, сярод якіх не апошняе месца займаюць унутраныя эканамічныя цяжкасці Беларусі, М. Грыб адзначыў, што «заходнія краіны, акрамя ЗША, не выконваюць сваіх жа рашэнняў па аказанню дапамогі Беларусі ў раззбраенні (рэзалюцыя, што была прынята летась у Капенгагене. — **Заўвага Ю. К.)**, выкананне якіх паскорыла б далучэнне». Між тым пытанне аб членстве Беларусі ў «Партнёрстве» паціху пачынае пераходзіць з разраду практычных у разрад рытарычных: міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько абяцаў далучэнне яшчэ ў верасні. Міністр абароны Беларусі Анатоль Кастэнка на адной з прэс-канферэнцый раіў не спяшацца. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка перыядычна канстатуе: «Мы вывучаем гэта пытанне». Пэўнасць унес М. Грыб, які паведаміў журналістам, што хутчэй за ўсё пытанне будзе вырашана на пасяджэнні Савета Бяспекі Беларусі, якое адбудзецца ў лістападзе. «Але я магу толькі спадзявацца, — заявіў М. Грыб, — бо я не з'яўляюся членам Савета Бяспекі».

Як адзначыў М. Грыб, на 40-й сесіі дэбатавалася пытанне аб хутчэйшым пашырэнні НАТО за кошт прыняцця ў шэрагі гэтай арганізацыі Польшчы, Венгрыі, Чэхіі і Славакіі. Нягледзячы на адмоўнае стаўленне прадстаўніка Расіі сп. Віктарава, рэзалюцыя аб хутчэйшым далучэнні гэтых краін усё ж была зацверджана. На практыцы гэта азначае, што заходняя суседка Беларусі Польшча ў хуткім часе ўвойдзе ў НАТО паўнапраўным членам і не выключаецца, што прыспешваць вырашэнне пытання аб стаўленні Беларусі да «Партнёрства» будзе не толькі Бон і Вашынгтон, але і Варшава.

Як паведамлялася журналістам, акрамя пленарнага пасяджэння, прадстаўнікі беларускай дэлегацыі прымалі ўдзел у пасяджэннях 5 камітэтаў Паўночнаатлантычнай Асамблеі. У рабоце эканамічнага камітэта ўдзельнічаў старшыня камісіі ВС па дзяржаўнаму будаўніцтву Уладзімір Леўчык. У камітэце абмяркоўваліся вынікі ўругвайскага раунда перамоў у рамках ГАТТ (Генеральнае пагадненне па тарыфах і гандлю). Як вядома, Беларусь яшчэ у пазамінулым годзе выказала намер уступіць у ГАТТ, што дало б нам магчымасць весці сусветны гандаль, пазбягаючы дыскрымінацыі. Але тэрмін уступлення, згодна з рэгламентам ГАТТ, можа расцягнуцца на гады (так яно, дарэчы, і адбываецца). Таму пры разглядзе гэтага пытання Беларусь выступіла з ініцыятывай прадастаўлення нам магчымасці «мяккага механізма далучэння да ГАТТ, бо на прывядзенне нашага заканадаўства ў адпаведнасць з патрабаваннямі гэтай арганізацыі спатрэбіцца час», — сказаў М. Грыб. Адказваючы на пытанне карэспандэнта «Звязды» аб магчымых тэрмінах далучэння да ГАТТ, Старшыня ВС назваў 1995 год, дадаўшы, што «Ёсць усе дакументы і напрацоўкі для ўступлення Беларусі паўнапраўным членам не толькі ў ГАТТ, але і ў Эканамічны савет Еўропы, а таксама ў Міжнародны парламенцкі саюз. Усё будзе залежаць ад настойлівасці Беларусі». Каменціруючы пытанне супрацоўніцтва Беларусі з эканамічнымі арганізацыямі свету, М. Грыб вылучыў ініцыятыву: «А чаму б Беларусі не імкнуцца ў Вышаградскую групу, куды так настойліва апошнім часам жадае ўвайсці Украіна?»

На камітэце Асамблеі па грамадскіх правах, у рабоце якой удзельнічаў старшыня Камісіі ВС па міжнародных пытаннях Іван Цярэшка, была прынята рэзалюцыя ў падтрымку дэмакратыі на Беларусі, у Малдове, на Украіне і ў Расіі. У ёй змяшчаецца заклік да ВС Беларусі правесці свабодныя дэмакратычныя выбары ў парламент не пазней вясны наступнага года. Як паведаміў М. Грыб, дэлегацыі Беларусі прыйшлося тлумачыць у камітэце, што ў нас прынята новая Канстытуцыя, абраны Прэзідэнт, ёсць Канстытуцыйны суд.

У рамках візіту ў ЗША М. Грыб наведаў 49-ю сесію Генеральнай Асамблеі ААН, дзе меў гутарку са старшынёй сесіі сп. Эссі. Тэмай гутаркі па ініцыятыве М. Грыба стала велічыня членскіх узносаў, якія Беларусь штогод выплачвае ААН па разраду «В». Адзначу, што гэта не першая спроба беларускай дэлегацыі ініцыіраваць пытанне аб пераглядзе ўзносаў. Усе ранейшыя захады па пераводу Беларусі ў разрад «С», што зменшыла б 100-працэнтныя ўзносы Беларусі за міратворчыя сілы ААН да 20 працэнтаў, поспеху не мелі. На гэты раз, па словах М. Грыба, сп. Эссі паабяцаў поўную падтрымку Беларусі па гэтаму пытанню і нават прапанаваў свае паслугі Беларусі ў якасці адваката. Велічыня ўзносаў для Беларусі павінна вырашыцца ў гэтым годзе.

Кіраўнік беларускай дэлегацыі правёў сустрэчы з прадстаўнікамі адміністрацыі ЗША: спецыяльным саветнікам дзяржсакратара ЗША па справах краін СНД і намеснікам міністра абароны ЗША. Падчас праведзеных перамоў паміж Беларуссю і ЗША дасягнута дамоўленасць аб тым, што пакуль паміж Мінскам і Масквой не будзе падпісаны дагавор аб выдзяленні Беларусі Расіяй кампенсацыі за ядзерныя матэрыялы, якія вывозяцца з нашай тэрыторыі ў Расію, Вашынгтон не будзе падпісваць дамову аб выдаткаванні Расіі сродкаў за уран і іншыя стратэгічныя рэчы, якія ЗША забірае сабе пасля расшчаплення. «Я прапанаваў, — адзначыў М. Грыб, — каб грошы ЗША за вывозімыя з Беларусі ядзерныя матэрыялы пералічваліся ў Мінск не праз Маскву, а напрамую з ЗША, над чым амерыканскі бок абяцаў падумаць». Амерыканскі бок паабяцаў аказаць падтрымку Беларусі і ў знішчэнні звычайных узбраенняў. Вырашана пытанне аб стварэнні ў Мінску самастойнага цэнтра па навуцы і тэхніцы для забеспячэння занятасці беларускіх вучоных-ядзершчыкаў, на што амерыканскі фонд выдаткоўвае 5 млн. долараў. 1 млн. долараў выдаткоўваецца таксама для стварэння ў Мінску амерыканскага бізнес-цэнтра і Фонду прадпрымальніцтва Беларусі ў ЗША (дамова аб яго стварэнні была дасягнута яшчэ падчас візіту ў ЗША прэм'ер-міністра Беларусі М. Чыгіра). ЗША паабяцалі аказаць Беларусі тэхнічную і фінансавую дапамогу па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. У 1995 годзе пад канкрэтныя праграмы будуць «размарожаны» сродкі, што павінны трапіць на Беларусь па праграме «Нана — Лугара»: 25 млн. долараў на экалагічныя патрэбы і 16 млн. долараў — на ўладкаванне беларускай мяжы. Цікава, што калі гаворка зайшла аб тэмпах эканамічных рэформаў на Беларусі, ЗША заявілі, што падтрымка Беларусі можа ісці толькі праз меркаванні аб становішчы на Беларусі МВФ, які ацэньвае і адсочвае эканамічныя паказчыкі руху эканамічных пераўтварэнняў.

Падчас візіту М. Грыб правёў сустрэчы з дыпламатычным корпусам Беларусі ў ЗША, прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў ЗША, а таксама з галоўным равінам Нью-Йорка сп. Шнаірам па яго просьбе.

Падсумоўваючы на прэс-канферэнцыі вынікі візіту, старшыня ВС Беларусі адзначыў: «Праца была даволі напружанай, графік сустрэч — даволі жорсткі. Працавалі мы з ранку і да вечара. Мяркую, што вынікі гэтай працы можна лічыць для Беларусі вельмі карыснымі».

**Юрась КАРМАНАЎ.**

**ЗВЯЗДА**

Перасылаю выразку з газэты "Звязда" і прашу зрабіць да яе маленькую дапіску:

Як ні сорамна, але трэба адкрыта прызнаць, што кожная чацьвёртарадная краіна ў Афрыцы ці яшчэ дзе сьмяецца з Беларусі гледзячы на яе пачтовую службу або выдачу новых пашпартоў.

Калі Беларусь ня можа наладзіць спраўнасьці ў такіх звычайных і жыцьцёва неабходных патрэбнасьцях, дык што тады гаварыць пра вывад краіны з эканамічнага балагану...

Ведаеце, гэта проста сьмех – ды годзе...

*"Звязда"*

# ПАШПАРТЫ ЁСЦЬ. ПАКУЛЬ ТОЛЬКІ Ў 16-ГАДОВЫХ

Набліжаецца навагодняе свята, а пытанне аб атрыманні грамадзянамі Беларусі новых нацыянальных пашпартоў застаецца адкрытым. Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў пашпартна-візавай службе МУС, па кабінетах і калідорах міністэрства «гуляюць» тры важныя афіцыйныя дакументы, без якіх пачаць масавую выдачу немагчыма. Усе праблемы вырашацца толькі недзе ў канцы студзеня 1995 года, калі будзе складзены адпаведны фінансавы план. Пакуль жа галоўны агульнаграмадзянскі дакумент атрымліваюць 16-гадовыя жыхары рэспублікі. Як доўга прыйдзецца чакаць астатнім, не ведае, на жаль, ніхто.

**Сяргей ХРЫПАЧ.**

# *НАМ ПРЫСЛАЛІ..*

1. Belarusian Review, No 3, Fall 1994.
Вельмі патрэбнае і карыснае выданьне, якое прафесыйна інфармуе англамоўны сьвет пра важную беларускую праблематыку, а канкрэтна пра беларускі адраджэнскі працэс.
Часопіс рэдагуе Я. Арцюх.

2. ЗАПІСЫ, № 21, 1994.
Зьмест чарговае кнігі выданьня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва разнаякі і цікавы. Артыкулы больш накіраваныя на чытача з навуковымі ўпадабаньнямі.
Кнігу рэдагуе Рэдакцыйная Калегія.

З НАГОДЫ ЗВЯЗДА

## Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ: «ПРЫЦЯГНЕННЕ ЗАХОДНІХ ІНВЕСТЫЦЫЙ НА БЕЛАРУСЬ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ПАЛІТЫКІ НОВАГА ЎРАДА БЕЛАРУСІ»

*Скончыўся візіт у ЗША старшыні Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, дзе ён знаходзіўся па запрашэнню амерыканскага Савета маладых палітычных лідэраў і меў сустрэчу з Прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам. «З нагоды» візіту карэспандэнт «Звязды» гутарыць з Аляксандрам* **ДАБРАВОЛЬСКІМ.**

**– Ці не прадыктавана актывізацыя, што назіраецца апошнім часам у адносінах паміж ЗША і Беларуссю, жаданнем Злучаных Штатаў стварыць альтэрнатыву кантактам Беларусі з мацнейшым у Еўропе геапалітычным цэнтрам – Германіяй?**

– Мяркую, што Беларусі неабходна мець добрыя адносіны з усімі геапалітычнымі цэнтрамі свету – ЗША, Германіяй, Расіяй, Францыяй. Мяркую, што прысутнасць апошняй у хуткім часе павінна быць заўважана на Беларусі. Праблема канкурэнцыі за ўплыў на Беларусь – праблема тых жа ЗША і Германіі. Беларусь жа, адчуваючы сябе самастойным суб'ектам міжнароднай палітыкі, павінна гэтым карыстацца. І вельмі дрэнна, калі Беларусь будзе арыентавацца на адну з гэтых краін, страціўшы магчымасць мець карысць ад зносінаў з іншымі.

**– Як далёка зайшло ўспрыманне на міжнароднай арэне Беларусі як дзяржавы, што трымаецца ў фарватэры расійскай палітыкі?**

– Былы ўрад Беларусі зрабіў усё, каб залежнасць знешняй палітыкі Беларусі ад Расіі ўспрымалася як поўная. Вынікам гэтай палітыкі стала тое, што сёння вельмі цяжка растлумачыць на Захадзе, што Беларусь – гэта не Расія. І не таму, што людзі на Захадзе неадукаваныя, а таму, што сапраўды, так яно і было. Беларусь не выступала самастойна на міжнароднай арэне і сёння задача Беларусі – увайсці ў сусветную палітыку самастойным суб'ектам. Уліўшы ўсё вышэйазначанае, зрабіць гэта будзе вельмі цяжка, але іншага выйсця для Беларусі проста няма.

**– Ці здольны прыход да ўлады ў ЗША рэспубліканцаў істотна паўплываць на змяншэнне амерыканскіх інвестыцый ва Усходнюю Еўропу і, у прыватнасці, на Беларусь?**

– Можна прагназаваць невялікае змяншэнне інвестыцый у краіны Усходняй Еўропы з-за больш жорсткіх умоў, якія выстаўляюць рэспубліканцы. Пустых інвестыцый будзе менш. Але праблема інвестыцый для Беларусі на 99 працэнтаў залежыць ад дзеянняў беларускага ўрада і толькі на 1 працэнт – ад урада ЗША. Памеры інвестыцый, што маглі б быць прыцягнуты на Беларусь, пры змене кіруючай партыі ЗША могуць зменшыцца ўсяго на 10–20 працэнтаў. Але Беларусь з тых грошай з-за адсутнасці рэформаў не атрымала і 1 працэнта, бо дзейнасць кіраўніцтва Беларусі не выклікала ніякага даверу ні ў еўрапейскіх краінах, ні ў ЗША.

**– Але цікаўнасць ЗША да Расіі, нягледзячы на эфектыўна праводзімыя рэформы ў Расіі, значна знізілася...**

– Па-першае, рэформы праводзіліся эфектыўна, а зараз тармозяцца. Былы ўрад рэформаў ператварыўся ва ўрад лабістаў, што імкнуцца расцягнуць эканоміку па сваіх сектарах. І па-другое, шокам для амерыканцаў стала выбранне Жырыноўскага. Амерыканцы не могуць дапамагаць краіне, якая ва ўмовах свабодных дэмакратычных выбараў галасуе за такіх людзей. Амерыканцы зараз больш не цікавяцца, а баяцца Расіі.

**– Ці здольны выбары Прэзідэнта Беларусі актывізаваць цікаўнасць да нашай краіны?**

– Цвёрдай пазіцыі да Лукашэнкі ў Амерыцы пакуль няма: Беларусь не першая краіна, аб якой думаюць амерыканцы. Яны зараз прыглядаюцца. Але ж, калі першая асоба ў дзяржаве будзе непаслядоўнай у сваіх выказваннях і дзеяннях, то гэта будзе вельмі шкодзіць міжнароднаму аўтарытэту Беларусі. Мяркую, што прэзідэнцкая каманда гэта разумее. Міністр замежных спраў Беларусі дэманструе гэта разуменне.

**– Ці ставіцца велічыня заходніх інвестыцый у залежнасць ад далучэння Беларусі да натаўскай ініцыятывы «Партнёрства дзеля міру»?**

– Калі далучэнне да натаўскай праграмы «Партнёрства дзеля міру» для іншых краін мае нейкі сэнс, для Беларусі галоўны сэнс мае дэманстрацыя палітычнай волі ўрада Беларусі да правядзення рэформаў. Калі гэтага не будзе, то далучэнне да любых сусветных пагадненняў не будзе мець ніякага сэнсу. Падтрымка будзе тады, калі можна будзе разлічваць, што іх грошы вернуцца.

**– Напэўна, гэта і будзе імкнуцца прадэманстраваць Старшыня ВС Беларусі М. Грыб, які знаходзіцца ў ЗША.**

– Візіт М. Грыба ў ЗША – факт сам па сабе добры. Відавочнае імкненне палепшыць становішча Беларусі на міжнароднай арэне. Праблема толькі ў тым, што гэтыя людзі не так даўно выступалі за аб'яднанне грашовых сістэм з Расіяй, а на Захадзе гэта памятаюць добра.

**Рубрыку вядзе Юрась КАРМАНАЎ.**

Ад Рэдакцыі:

Пры перасылцы грашовых пераказаў, калі ласка, пішыце на чэках: N. Prusky/Belarusian Digest. Або толькі: N. Prusky. Гэта аблегчыць нам банкаўскую працэдуру...

**Прысылайце нам новыя адрасы людзей, якія ўмеюць чытаць пабеларуску...**

## АЛЬТЭРНАТЫВА САЮЗУ З РАСІЯЙ ЁСЦЬ?

***Відавочна, па старой звычцы многія кіраўнікі нашай дзяржавы ўсё яшчэ лічаць, што альтэрнатывы саюзу з Расіяй няма. Хоць сама ўсходняя суседка апошнім часам недвухсэнсоўна дае зразумець, што ні аб якім раўнапраўным партнёрстве з Беларуссю гаворкі быць не можа. Таму, верагодна, беларускім дзяржаўным дзеячам варта ў рэшце рэшт пашукаць альтэрнатывы «расійскаму вектару». Зрэшты, у пошуках нашым кіраўнікам не трэба далёка хадзіць. Колішнія браты па сацыялістычным лагеры – краіны Цэнтральнай Еўропы таксама зацікаўлены ў інтэграцыі з Беларуссю. У прыватнасці, нядаўна падчас візіту ў Варшаву прадстаўнікоў Камісіі Вярхоўнага Савета па прамысловасці іх калегі, дэпутаты польскага сейма, выказалі ідэю далучэння Беларусі да краін так званай Вышэградскай групы.***

***Больш падрабязна расказаць аб перспектывах утварэння цеснага альянсу паміж Рэспублікай Беларусь і краінамі Цэнтральнай Еўропы карэспандэнт «Звязды» папрасіў расказаць кіраўніка беларускай дэлегацыі, сакратара парламенцкай Камісіі па прамысловасці Уладзіміра НОВІКА.***

*"ЗВЯЗДА"*

**– Уладзімір Уладзіміравіч, чаму на такіх спецыфічных перамовах на ўзроўні парламенцкіх камісій па прамысловасці Беларусі і Польшчы ўзнікла такая глабальная ідэя далучэння нашай дзяржавы да Вышэградскай групы?**

– Сама па сабе ідэя інтэграцыі Беларусі ў Цэнтральную Еўропу не новая. Проста ў нашай краіне яна не знаходзіла і пакуль не знайшла падтрымкі. Мы ж, я маю на ўвазе прадстаўнікоў парламенцкіх камісій па прамысловасці Беларусі і Польшчы, прыйшлі да гэтай высновы:, абмяркоўваючы, здавалася б, чыста спецыфічныя праблемы гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. Сёння развіццю ўзаемавыгадных эканамічных сувязяў Польшчы і Беларусі перашкаджаюць, з аднаго боку, прэтэнзіі Расіі на асобыя інтарэсы ў краінах былога СССР, з другога – дыскрымінацыйныя мытныя бар'еры, пастаўленыя палякамі на шляху беларускіх тавараў. І атрымалася, што Беларусь трапіла ў ізаляцыю. На Усход нашы тавары не пускае Расія, на Захад – Польшча і яе партнёры па Вышэградскай групе. Паўстае пытанне: куды ж нам падзецца?

Расія да раўнапраўнага партнёрства з намі зараз не імкнецца, яе задавоExternal хіба толькі інкарпарацыя Беларусі ў састаў РФ. Таму, на маю думку, каб не страціць свой суверэнітэт і хутчэй выбрацца з эканамічнага крызісу, у нас, беларусаў, ёсць зараз адзін з перспектыўных накірункаў – інтэграцыя ў Цэнтральную Еўропу. Балазе, тут нас яшчэ чакаюць. Прынамсі, польскія парламентарыі заявілі, што гатовы пайсці на гарманізацыю мытнага заканадаўства нашых дзяржаў. Больш таго, Польшча магла б паспрыяць выхаду Беларусі з крызісу. Напрыклад, дапамагчы нам прабіцца на рынкі трэціх краін. Аднак для гэтага нам неабходна далучыцца да так званай Вышэградскай групы, куды уваходзяць, апроч Польшчы, Венгрыя, Славакія і Чэхія, паколькі паміж гэтымі краінамі існуе дамоўленасць аб узгадненні мытнай і гандлёвай палітыкі. Між іншым, нашы суседзі, Украіна і Літва самі праяўляюць ініцыятыву аб далучэнні да Вышэградскай групы.

Дарэчы, варта крыху расказаць аб Вышэградскай групе. Утворана яна была ў 1990 годзе па ініцыятыве Вацлава Гавела. Сама назва групы паходзіць ад горада Вышэград, дзе 15 лютага 1991 года кіраўнікі Польшчы, Венгрыі і Чэха-Славакіі падпісалі «Дэкларацыю аб супрацоўніцтве ў імкненні да еўрапейскай інтэграцыі».

**– Дапусцім, што Беларусь выкажа жаданне далучыцца да Вышэградскай групы. Але ці згодны нас прыняць у сваю сям'ю іншыя члены гэтага альянсу?**

– Польшча з'яўляецца лідэрам у краінах Вышэградскай групы, таму да яе меркавання там прыслухоўваюцца. Ды і падстаў для адштурхоўвання Беларусі ў астатніх дзяржаў групы няма, бо ўсе яны зацікаўлены ў інтэграцыі з намі. Галоўнае ж – у Вышэградскай групе мы будзем сапраўды роўныя сярод роўных, там няма краін з імперскімі замашкамі.

**– Так, суверэнітэт – найвялікшая каштоўнасць. Але ж і холад – не цётка. Ці здолее Беларусь, адышоўшы ад Расіі, вырашыць свае энергетычныя праблемы?**

– Ну, па-першае, далучэнне да Вышэградскай групы не азначае скасавання ўсіх адносін з Расіяй. З гэтай дзяржавай трэба падтрымліваць цесныя, але раўнапраўныя цывілізаваныя адносіны. Па-другое, тут гаворка ідзе аб перспектыве далучэння Беларусі да Вышэградскай групы, а для рэалізацыі гэтай ідэі патрэбен немалы час. Зараз важна абмеркаваць і ўсебакова вывучыць гэтую ідэю на самым высокім узроўні.

Дарэчы, Вышэградская група яшчэ знаходзіцца на этапе станаўлення, таму магчымы самыя розныя варыянты інтэграцыі Беларусі з краінамі Цэнтральнай Еўропы. Не выключана і тое, што мэтазгодна будзе стварыць новы саюз цэнтральнаеўрапейскіх дзяржаў з удзелам Беларусі, Літвы і Украіны, каб ураўнаважыць еўраазіяцкі блок краін, якія знаходзяцца пад кантролем Расіі.

А што датычыць энергетычных праблем, то, я мяркую, Беларусь іх можа вырашыць без страты суверэнітэту. Тыя ж краіны Вышэградскай групы таксама не маюць, напрыклад, сваёй нафты, але не замярзаюць зімой і з бензінам праблем не адчуваюць. Тым больш што зараз, калі Расія прадае нам нафту фактычна па сусветных цэнах, з такім жа поспехам, выкарыстоўваючы польскія нафтавыя тэрміналы, мы можам купляць энерганосьбіты ў краінах Паўночнай Еўропы і Блізкага Усходу. Менавіта адтуль і атрымліваюць вялікую колькасць нафты Польшча, Венгрыя, Чэхія і Славакія.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## Новы этап у беларуска-амерыканскіх адносінах

"У ЗША спадзяюцца, што з гэтага моманту пачнецца новы этап у двухбаковых адносінах", — заявіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь Кенэт Спенсэр Яловіц у час цырымоніі ўручэння вярыцельных грамат Прэзідэнту рэспублікі Аляксандру Лукашэнку, якая адбылася 15 лістапада. Пасол, дарэчы, прыемна здзівіў і Прэзідэнта, і прадстаўнікоў прэсы, пачаўшы сваю прамову на беларускай мове.

Пан Яловіц адзначыў, што адносіны паміж Беларуссю і ЗША на працягу трох апошніх гадоў устойліва развіваюцца і бачны вялікі прагрэс як у палітычным, так і ў эканамічным супрацоўніцтве паміж дзвюма дзяржавамі. Паводле слоў пасла, адмова Беларусі ад ядзернай зброі, падпісанне рэспублікай Дагавора аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі здабылі для яе аўтарытэт у сусветнага супольніцтва. А маючы да таго ж таленавітых і высокаадукаваных людзей, у рэспубліцы ёсць усе шанцы ўдачнага ператварэння нацыянальнай эканомікі і інтэграцыі яе ў еўрапейскую і заходнюю. Акрамя таго, Беларусь займае вельмі выгаднае стратэгічнае становішча, знаходзячыся на скрыжаванні Еўропы, што так або інакш адыграе пазітыўную ролю ў вырашэнні эканамічных праблем, якіх пакуль вельмі шмат. І ўсё ж, паводле слоў пасла, ужо сёння відаць, што па меры развіцця ў Беларусі рыначных адносін у амерыканскіх бізнесменаў павышаецца цікавасць да рынку рэспублікі.

У выступленні ў адказ Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка выказаў падзяку Прэзідэнту і ўраду Злучаных Штатаў Амерыкі за разуменне і адабрэнне курсу рэформ, які праводзіць цяпер Беларусь. Ён таксама папрасіў пасла аб правільным разуменні таго, што глыбіня адносін Рэспублікі Беларусь з Расійскай Федэрацыяй, прадыктаваная шматлікімі фактарамі, ні ў якім разе не гаворыць аб тым, што ў Беларусі не бачаць таленавітых палітыкаў і эканамістаў у заходніх краінах. Беларусь адкрыта для пазітыўнага супрацоўніцтва з усімі дзяржавамі, адзначыў Прэзідэнт.

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА



## Об иммиграции в Израиль евреев из стран СНГ

Иммиграция евреев в Израиль из стран СНГ продолжается, хотя и меньшими темпами, чем ожидалось. Об этом заявил израильский министр абсорбции иммигрантов Яир Цабан на состоявшейся в Тель-Авиве конференции по трудовым ресурсам.

По словам министра, с начала массового исхода евреев из бывшего СССР в 1990 году на свою историческую родину уже прибыло полмиллиона репатриантов — по 100—150 тыс. человек в год. К концу нынешнего года, как ожидается, из бывших советских республик в Израиль переселится около 75 тыс. евреев. Примерно такие же темпы будут наблюдаться и в будущем году.

В то же время, по данным Еврейского агентства Сохнут, ведающего вопросами переселения евреев в Израиль, репатриация на "землю обетованную" из стран СНГ в ближайшие годы будет держаться на уровне 60 тыс. человек ежегодно. По сведениям Сохнут, на территории бывшего Советского Союза сейчас проживает 1 млн. 310 тыс. 300 евреев. До конца нынешнего столетия, по прогнозам агентства, эта цифра может сократиться до полумиллиона.

**Анатолий КЕРЖЕНЦЕВ.**

*Израиль.*

"ЗВЯЗДА"

ДЭМАГРАФІЯ

# У Беларусі смяротнасць перавышае нараджальнасць. А гэта значыць, што будучае нацыі пад пагрозай

**З кожным годам дэмаграфічнае становішча ў Беларусі пагаршаецца. Нараджальнасць памяншаецца, а смяротнасць павялічваецца. Гэты працэс, як сведчыць статыстыка, пачаўся пасля 1986 года. Тады ў рэспубліцы натуральны прырост на 1.000 чалавек складаў 7,4 чалавека (нараджальнасць – 17,1, смяротнасць – 9,7), а вось ў 1993 годзе – ужо -1,1 (нараджальнасць – 11,3, смяротнасць – 12,4). Такім чынам Беларусь стала краінай, на тэрыторыі якой не ідуць ваенныя дзеянні, але ж людзей памірае больш, чым нараджаецца.**

**У чым жа прычына такога жахлівага становішча? Адказаць на гэтае пытанне карэспандэнт «Звязды» папрасіў загадчыка кафедры акушэрства і гінекалогіі № 1 Інстытута ўдасканалення ўрачоў, доктара медыцынскіх навук прафесара Івана ДУДУ:**

– Увогуле ва ўсім свеце, асобна ў кожнай краіне, існуе дэмаграфічная палітыка, якая прадугледжвае стварэнне спрыяльных умоў для дзетараджэння. Хаця ў тых жа Індыі і Кітаі, наадварот, імкнуцца абмежаваць нараджальнасць. Беларусь заўсёды мела тут нізкія паказчыкі, аднак павольна яны ўсё ж раслі. Даваеннага ўзроўню мы дасягнулі ў 70-х гадах. Але ж за апошнія 5 гадоў нараджальнасць у рэспубліцы панізілася больш чым на 30 працэнтаў, а па асобных рэгіёнах і напалову.

Гэта абумоўлена некалькімі фактарамі, якія цесна ўзаемазвязаны: сацыяльна-эканамічныя, экалагічныя, культурныя, узровень медыцынскай дапамогі і г. д. Безумоўна, асноўныя сярод іх – сацыяльна-эканамічныя. Людзям не хапае сродкаў каб выхаваць нават адно дзіця – не дазваляюць жыллёвыя ўмовы, і самае галоўнае – яны не бачаць перспектывы паляпшэння свайго жыцця ў будучым. З'явяцца нармальныя ўмовы для жыцця – людзі пачнуць больш нараджаць.

**– Іван Уладзіміравіч, давайце засяродзім увагу на ўзроўні медыцынскай дапамогі. Па статыстыцы толькі 20 працэнтаў усіх родаў у рэспубліцы праходзяць нармальна. У астатніх жа выпадках узнікаюць ускладненні для здароўя маці і дзіцяці. На маю думку, гэты момант таксама ўплывае на ўзровень нараджальнасці.**

– Я ўжо адзначаў, што нельга кожны фактар разглядаць асобна. Сёння вельмі шмат жанчын хварэе, пачынаючы з маладога ўзросту. Напрыклад, зараз даволі часта сустракаецца ў жанчын анемія, што, на мой погляд, выклікана пагаршэннем экалагічнай абстаноўкі. Ці такая хвароба, аб якой раней мы нават і не думалі, як недастатковае харчаванне. Нам у асноўным даводзіцца мець справу не са здаровымі, а з хворымі жанчынамі. А калі дадаць сюды ўскладненні падчас цяжарнасці і родаў... Таму і праходзяць нармальна толькі 20 працэнтаў родаў.

Пры ўсіх тых праблемах, якія існуюць на працягу апошніх гадоў, у аказанні дапамогі пры родах беларускія медыкі дасягнулі значных поспехаў. Галоўныя паказчыкі – мацярынская, перынатальная і дзіцячая смяротнасць, якія вызначаюць узровень медыцынскай дапамогі, у Беларусі самыя нізкія сярод краін СНД. Хаця яны яшчэ вышэй, чым у высокаразвітых краінах свету.

Некаторыя паказчыкі ў нас узраслі, калі мы пачалі ацэньваць іх па крытэрыях Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Напрыклад, раней да мацярынскай смяротнасці адносілі выпадкі, калі жанчына памірала пасля 28 тыдняў цяжарнасці, зараз адносяцца ўсе выпадкі, пачынаючы з першага дня цяжарнасці.

Ці ўзяць перынатальную смяротнасць. Раней лічылася, што дзіця можа выжыць, калі яно нарадзілася пасля 28 тыдняў. Зараз – ужо пасля 22. Хаця, шчыра кажучы, у нас няма ўмоў, абсталявання, каб выхадзіць дзіця, якое з'явілася на свет нават у 28 тыдняў.

**– На вашай кафедры павышаюць кваліфікацыю акушэры-гінеколагі з усёй рэспублікі, таму вы добра знаёмы са становішчам ва ўсіх рэгіёнах. Што неабходна зрабіць дзяржаве, каб павысіць узровень дапамогі пры родах?**

– Узровень дапамогі пры родах вызначаецца наяўнасцю матэрыяльна-тэхнічнай базы і кваліфікаваных кадраў. Наша база ў значнай ступені адстае ад аналагічнай у заходніх краінах. І калі памяшканняў у нас дастаткова, хаця ўмовы ў іх не вельмі добрыя, то тэхніка слабая. Калі на Захадзе ўрач, маючы добрую апаратуру, без цяжкасцей ставіць дыягназ, то мне гэта трэба рабіць на падставе сваіх ведаў і вопыту. А як праходзяць роды ў развітых краінах? Урач знаходзіцца ў сваім кабінеце і па некалькіх дысплеях назірае, як праходзяць роды ў пяці–сямі жанчын адначасова. Апаратура паказвае, як функцыянуюць арганізмы маці і дзіцяці, а ўрач на адлегласці ўсё рэгулюе. Яму неабавязкова, як у нас, сядзець па 2-3 гадзіны побач з жанчынай і трымаць яе за руку. А што датычыцца кадраў, то, вядома, па колькасці ўрачоў мы займаем адно з першых месцаў у свеце, хаця кваліфікацыя ў іх ніжэйшая, чым у заходніх калег. Аднак калі зноў-такі прыгадаць нашы ўмовы працы, то невядома, як працаваў бы у іх заходні акушэр-гінеколаг.

Другое – гэта зарплата. Калі амерыканскі прафесар атрымлівае 200 долараў у гадзіну, то наш – каля 30 долараў за месяц. Многія прапануюць перавесці медыцыну з бясплатнай на страхавую. Вядома, медыкі ад гэтага выйгралі, але ж як чалавек заплаціць за лячэнне, калі яму няма за што купляць хлеб? І, на жаль, такіх людзей у нас большасць. Таму дзяржаве пакуль неабходна захаваць існуючую сістэму і адначасова знайсці дадатковыя сродкі для павелічэння аплаты працы медработнікаў.

**– Вы закранулі праблемы, для вырашэння якіх дзяржаве неабходна знайсці мільярды рублёў. Аднак сёння такіх грошай няма, таму, відаць, сітуацыя зменіцца ў лепшы бок яшчэ не хутка...**

– Зараз ідзе рэарганізацыя сістэмы аховы здароўя. І шмат чаго можна б было зрабіць у арганізацыйным плане пры тых жа фінансавых затратах. Напрыклад, у наступным аспекце. Пры кожнай бальніцы Мінска існуе кафедра медыцынскага інстытута ці інстытута ўдасканалення ўрачоў. На кафедрах працуюць высокакваліфікаваныя спецыялісты, але ўсе яны знаходзяцца ў непаўнацэнных матэрыяльных умовах. Чаму? Таму што гаспадар установы – гэта галоўны ўрач. Што захоча, тое і зробіць.

Між тым, гаворачы пра якую-небудзь бальніцу, людзі ў першую чаргу ўспамінаюць пра спецыялістаў, якія там працуюць. Прафесар – гэта твар клінікі. Ад яго дзеянняў залежыць імідж установы, кваліфікацыя ўсіх кадраў, якія ў ёй працуюць. І каб гэты імідж быў высокі, трэба мець магчымасць нейкім чынам уплываць на фінансаванне, кадравую палітыку і г. д. У нашай кафедры адносіны з адміністрацыяй бальніцы добрыя. Але ж калі разглядаць сістэму ўвогуле, то многія кафедры знаходзяцца ў рабскім становішчы. Я часта сустракаюся з іншымі кіраўнікамі кафедраў, якім прыходзіцца губляць шмат сіл на вырашэнне розных праблем. У абавязкі прафесара ўваходзіць абучэнне ўрачоў і студэнтаў, правядзенне кансультацый, аперацый і лячэнне самых цяжкіх хворых, а правоў у яго ніякіх няма.

Многія нашы адміністратары любяць вывучаць вопыт арганізацыі сістэмы аховы здароўя, наведваючы краіны далёкага замежжа. Аднак на практыцы рэальных зрухаў не назіраецца. У гэтай сувязі я мог бы параіць азнаёміцца з вопытам краін Прыбалтыкі, якія хутка правялі рэарганізацыю клінічных і навучальных устаноў, што значна палепшыла ўзровень медыцынскай дапамогі насельніцтву і падрыхтоўкі кадраў. Гэта будзе карысна, бо ў нас з імі была аднолькавая сістэма арганізацыі медыцыны.

Гутарыў
**Аляксандр ШЧАДРАНОК.**

# У Чыкаго ўшанавалі памяць Слуцкага Чыну!

Беларусы Чыкаго арганізаваныя ў БАНРадзе, пры Праваслаўным прыходзе "Сьв. Юрыя", ушанавалі 74-я ўгодкі Слуцкага збройнага Чыну 27-га лістапада 1994 г.

Ініцыятарам сьвяткаваньня была Ўправа на чале са Спадаром Міхасём Каленікам.

Пасьля Сьв. Літургіі, якую выканаў а. прат. Алег Міранöвіч, адбылася Паніхіда ў памяць Слуцкіх змагароў. У часе Паніхіды трымалі ганаровую варту са сьцягамі — амэрыканскім і беларускім — Юрка Каленік і Віктар Гірэль. а. Алег з амвона сказаў вельмі патрыятычную прамову ды запрасіў усіх прысутных на хаўтурную ўрачыстасьць з рэфэратам і абедам, які падрыхтавала сястрыцтва перад калядным постам.

Цікава і ўмела апрацаваны рэфэрат зачытаў малады інж. Ю. Ціпурка. Ён пасьлядоўна расказаў пра гістарычныя падзеі беларускага народу ад даўніны аж да сёньняшніх дзён. Вялікія выпрабаваньні і цярпеньні выпалі на долю беларускага народу ад сваіх усходніх ды заходніх суседзяў.

Вечная памяць аддаўшым сваё жыцьцё змагарам-патрыётам у барацьбе за волю Беларускага народу і яго дэмакратычную дзяржаўнасьць. Слава тым, хто заняў іх рады ў станаўленьні Беларускай Дзяржаўнасьці — закончыў свой рэфэрат Спадар Ю. Ціпурка.

*Мікола Латушкін*
Сакратар БАНРады ў Чыкаго




Рысунак Алега Папова

– Дзядзечка, пазваніце ў дзьверы, а то я не дацягваюся.
Дзядзечка пазваніў.
– А зараз, дзядзечка, уцякайма, бо біць будуць...

***18 лістапада адбылося пасяджэнне рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Рада прыняла дзве спецыяльныя пастановы і зварот да грамадзян Беларусі. Прапануем гэтыя дакументы ўвазе чытачоў "ЛіМа".***

(ЛіМ)

# АБ ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ САВЕТ

**Заклапочаныя лёсам нацыянальна-культурнага адраджэння Бацькаўшчыны і выказваючы напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет і мясцовыя органы ўлады рэспублікі сваю грамадзянскую пазіцыю, рэспубліканская рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны пастанаўляе:**

**1. Лічыць удзел суполак і сяброў ТБМ у выбарах у Вярхоўны Савет і мясцовыя органы ўлады краіны найважнейшай агітацыйна-асветніцкай кампаніяй, скіраванай на прапаганду ідэй нацыянальна-культурнага адраджэння, на пашырэнне ў грамадскім ужытку беларускай мовы і ўмацаванне дзяржаўнасці Беларусі.**

**2. Рэкамендаваць арганізацыям, сябрам ТБМ імя Ф.Скарыны прыняць на аснове дзейнага заканадаўства краіны актыўны ўдзел у вылучэнні кандыдатаў, прапагандзе перадвыбарчых праграм, у агітацыйна-масавай працы на ўсіх этапах правядзення выбараў. Прапанаваць усямерна падтрымліваць тых кандыдатаў, у праграме якіх яскрава выяўлена ідэя нацыянальна-культурнага адраджэння і станаўлення незалежнай беларускай дзяржавы.**

# АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ МОЎНАЙ ПАЛІТЫЦЫ

**Грунтуючыся на Канстытуцыі, на дзейным заканадаўстве аб мовах, аб культуры, аб адукацыі Рэспублікі Беларусь і выказваючы занепакоенасць тым, што дзяржаўная моўная палітыка ў Беларусі не ажыццяўляецца належным чынам, а апошнім часам нават інспіруецца пэўнымі сіламі супрацьдзеянне яе ажыццяўленню, рэспубліканская рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

**пастанаўляе:**

**1. Запатрабаваць ад усіх дзяржаўных структур і службовых асоб Рэспублікі Беларусь няўхільнага выканання палажэнняў Канстытуцыі краіны, у якіх замацаваны дзяржаўны статус беларускай мовы.**

**Асудзіць непатрыятычныя праявы нацыянальна-дзяржаўнага нігілізму і грэблівага стаўлення да мовы беларускага народа з боку асобных дзяржаўных служачых, пэўных грамадскіх аб'яднанняў альбо іншых структур.**

**2. Звярнуцца да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з грамадскай ініцыятывай зацвердзіць у Законе аб бюджэце на 1995 год і ў падатковым заканадаўстве такія палажэнні, якія б гарантавалі паспяховае і поўнае ажыццяўленне Закона аб мовах, Закона аб культуры, Закона аб адукацыі і іншых нарматыўных актаў, якія рэгулююць моўна-культурныя дачыненні ў грамадстве.**

**Лічыць недапушчальным згортванне канкрэтных праграм дзяржаўнай падтрымкі беларускай культуры, кнігавыдання, перыядычнага друку і іншых сродкаў масавай інфармацыі, нацыянальнай сістэмы адукацыі. У адпаведнасці з Законам і неад'емным правам народа беларускае слова ў сацыяльна-грамадскім ужытку Бацькаўшчыны павінна мець сапраўды дзяржаўнае гучанне.**

**3. Усведамляючы асабліва важную ролю школы ў справе дзяржаўнага і моўна-культурнага адраджэння Беларусі, аказваць больш дзейсную падтрымку органам, установам і работнікам азначанай галіны, якія самаахвярнымі высілкамі ствараюць падмурак нацыянальнай сістэмы адукацыі, забяспечваюць навучальна-выхаваўчы працэс згодна з патрабаваннямі заканадаўства. Без нацыянальнага дашкольнага выхавання, без сапраўды беларускай сярэдняй і вышэйшай школы не мае будучыні беларуская дзяржава.**

**4. Падтрымаць зварот бацькоў, вучняў беларускіх школ і класаў да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб пераводзе Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта на беларускую мову з 1 верасня 1995 года.**

**5. Ухваліць ініцыятыву шырокай грамадскасці Беларусі аб неадкладным стварэнні другога, цалкам беларускамоўнага, нацыянальнага канала Беларускага тэлебачання і звярнуцца да Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь з прапановай вырашыць гэта пытанне з улікам інтарэсаў незалежнай краіны, якая не можа развіваць сваю дзяржаўнасць і нацыянальную культуру без дастаткова развітой інфармацыйнай прасторы.**

НАША ГАЗЭТА ВЫДАЕЦЦА ДЗЯКУЮЧЫ АХВЯРНАСЬЦІ ЧЫТАЧОЎ...

# *НЕ — антыбеларускай імпэрскай плыні!!!*

**Апошнім часам небеспадстаўна разлічваючы на падтрымку найвышэйшых асоб улады, у нашай краіне актывізавалі сваю дзейнасць антыбеларускія сілы, якія маюць за мэту спыніць працэс беларускага нацыянальнага адраджэння і станаўлення незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь. Дзеля гэтага ў сродках масавай інфармацыі — у газетах, на радыё і тэлебачанні ставяцца пад сумненне праўдзівыя факты беларускай гісторыі, ідзе байкот выканання Закона аб мовах, адкрыта гучаць заклікі да замены дзяржаўнай нацыянальнай сімволікі, да вяртання Беларусі ў абдымкі імперыі.**

**Запаволілася работа па аднаўленню гістарычных беларускіх найменняў вуліц, вёсак і гарадоў у нашай краіне, навучальныя ўстановы, калгасы і саўгасы па-ранейшаму носяць імёны партыйных дзеячаў і дзяржаўных кіраўнікоў былога Саюза, а таксама людзей, якія засведчылі сябе ў гісторыі як ворагі незалежнай беларускай дзяржавы. Рускамоўныя шыльды па-ранейшаму застаюцца на сценах большасці адміністрацыйных будынкаў, новастворaных устаноў і камерцыйных структур, у значнай ступені рускамоўным застаўся гарадскі і міжгародні транспарт. Шэраг газет і часопісаў на нашай мове, сістэма беларускага кнігавыдання пакідаюцца сёння на волю стыхіі** дзікага рынку. Тармозіцца padрыхтоўка да пераводу вышэйшых навучальных установ на беларускамоўнае навучанне, і беларус, па-ранейшаму не мае магчымасці атрымаць адукацыю ў ВНУ на роднай мове. Ідзе адкрыты наступ на беларускую мову ў школах, сярэдніх спецыяльных навучальных установах. Прылюдна, у стылі мінулых часоў, нацыянальна свядомыя грамадзяне Беларусі абвінавачваюцца ў нацыяналізме, распальванні нацыянальнай варожасці, разбурэнні стабільнасці і спакою ў грамадстве — толькі за тое, што беларус пачаў гаварыць на мове сваёй дзяржавы, на мове сваёй зямлі, мове сваіх продкаў. І ўсё гэта адбываецца ў краіне, дзе прадстаўнікам іншых нацыянальнасцей, таксама як і іншым мовам, ніхто і нішто не пагражае. Беларуская зямля, на жаль, стаНовіцца прытулкам усяму антыбеларускаму, карумпіраванаму, крымінагеннаму. Гэта не можа не трывожыць усіх сумленных грамадзян Беларусі, бо пад пагрозай незалежнасць нашай дзяржавы.

Рэспубліканская Рада ТБМ заклікае ўсіх свядомых грамадзян Беларусі, патрыётаў Бацькаўшчыны стварыць супрацьстаянне гэтай змрочнай антыбеларускай імперскай плыні, на падставе Канстытуцыі і законаў не даць магчымасці задушыць імкненне беларусаў стаць сапраўднымі гаспадарамі на сваёй зямлі.

Набліжающца выбары ў Вярхоўную Раду краіны. Гэта выключна адказныя выбары. У нас ёсць магчымасць выбраць у вышэйшы орган сваёй улады людзей, адданых Беларусі, людзей, заклапочаных яе лёсам, самаахвярных і сумленных. Толькі ўсведамляючы свой нацыянальны абавязак і вялікую адказнасць перад дзецьмі і ўнукамі, перад будучыняй Радзімы, мы можам разлічваць на годнае месца ў супольнасці еўрапейскіх народаў.

Жыве Беларусь!

**Рада таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.**

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны Спадар Мікола!

...Я ведаю, што "Беларускі Дайджэст" газэта прыватная, якая паставіла сабе за мэту інфармаваць нас у замежжы, што адбываецца ў Беларусі... Газэта падабаецца, але падабалася-б яшчэ больш, каб кожны № выдаваўся на 12 старонках.

...І яшчэ. У "Беларусе" за кастрычнік г.г. Паважаны Сп. К. Мерляк піша: "...У залі, на сьценах, былі вывешаныя 30 (трыццаць, заўв. мая) партрэтаў дзячоў эміграцыі..." Гэта вельмі вялікае "стада" дзеячоў. Цікава, хто-ж там висеў?..

С. С.

*Я ўжо пісаў, што каб выдаваць газэту на 12 бачынаў кожны месяц, патрэбна дадаткова $200 даль. А дзе іх узяць? Часамі мне гэта ўдаецца, але вельмі рэдка, а цяпер будзе яшчэ радчэй, бо цана на друк пабольшала на 10%.*

*Што да партрэтаў эміграцыйных дзеячоў — будзь спакойны. Напэўна, ні ты, ні я там не віселі... А што 30 чалавек, вялікая група, як на нашу эміграцыю — гэта праўда...*

Паважаны выдавец!

Нядаўна будучы ў Менску, мне паказвалі і казалі, як прэса і радыё хвалілі Міколу за яго Дабрачынную дапамогу... І толькі Міколу... А я-ж і шмат хто яшчэ давалі вялікія грошы на гэтую дапамогу нашай царкве і іншым арганізацыям... І за нашыя грошы хваляць толькі Міколу... На маю думку гэта няпрыгожа...

Г. К.

*Чалавеча! Ты недзе нешта грунтоўна пакілбасіў. Ніякага дачыненьня да царкоўных або іншых эміграцыйных грошаў я ня меў і ня маю. Яшчэ раз зазначаю, абсалютна ня маю да гэтага ніякага дачыненьня!*

*Я меў і маю магчымасьць дапамагаць шмат каму, у тым ліку і двум, для мяне блізкім шпіталям. Праўда, раз мне было вельмі туга з грашамі, іх не хапала на перасылку 12 вялікіх скрынак мэдыкаментаў у Гайнаўку, Беласточчына. З роспачы я зьвярнуўся да Спадара Сільвановіча ў Ню Брансвік за дапамогай. Сп. Сільвановіч прыслаў мне 200 даль., што дапамагло мне пакрыць патрэбную частку перасылкі. Спадару Сільвановічу за гэта я вельмі і вельмі ўдзячны. І гэта ўсё! Былі гэта яго асабістыя грошы, ці нейкія іншыя, я ўжо не памятаю. Больш ніколі ад ніякае беларускае арганізацыі я не атрымаў нават зломанае капейкі... Так што, калі хочаш, каб цябе ўспаміналі за тваю ахвярнасьць, зьвяртайся да тых, каму ты даваў свае грошы. А я тут ні пры чым! А можа прышлеш ахвяру на "Беларускі Дайджэст"?..*

КАЛІ ЛАСКА, ПАДТРЫМАЙЦЕ НАШУ ГАЗЭТУ!..

## Чаму Лукашэнка ня любіць беларускай мовы?

**1 сьнежня прэзыдэнт Лукашэнка, выступаючы на сэсіі Гомельскага гарсавету, патлумачыў дэпутатам, чаму ён не гаворыць па-беларуску.**

«Людзі, якія размаўляюць на беларускай мове, ня могуць рабіць нічога, як толькі размаўляць на беларускай мове. Таму што па-беларуску нельга выказаць нешта вялікае. Беларуская мова — бедная мова. У сьвеце існуе толькі дзьве вялікія мовы — гэта расейская і ангельская», — кампэтэнтна адзначыў Аляксандар Рыгоравіч.

Пасьля гэтых словаў, якія гучалі з вуснаў прэзыдэнта, мне стала няёмка і крыўдна за нашу Бацькаўшчыну. Не разумею, як можна так зьневажаць мову сваёй дзяржавы, тым больш, калі ты зьяўляешся ейным вышэйшым кіраўніком. Можна ўявіць, колькі б пратрымаліся на пасадах прэзыдэнты Францыі ці Фінляндыі, калі б хто-небудзь зь іх абразліва выказаўся пра мову сваёй краіны.

"Свабода" **Леанід ЕПІШАЎ**
**дэпутат Гомельскага гарсавету**

Ад рэдакцыі:

Нам проста ня хочацца верыць, што Спадар Прэзыдэнт А. Лукашэнка мог выказаць такую недарэчнасьць, што "У сьвеце існуе толькі дзьве вялікія мовы — гэта расейская і ангельская"...

Што да ангельскае, гэта так, — але расейская, ну тут ужо далікатна сказаўшы — выбачайце...

## *Дарагія чытачы і спагаднікі!*

Вось ужо мінуў адзін год ад часу выданьня першага № "Беларускага Дайджэсту". Быў гэта год неаднаzначны, цяжкі і разам цікавы... Каб утрымацца на належным узроўні, газэта патрабуе яшчэ большае дапамогі нашых гойных спагаднікаў.

Ніжэй публікуем сьпіс людзей добрае волі, якія — адны больш, іншыя менш, а некаторыя па некалькі разоў — выдатна дапамаглі фінансава нашай-сваёй газэце. Вялікае Вам Усім ДЗЯКУЙ!

Юлія Андрусышын
Янка Азарка
Янка Аўдзей
Віктар Балтрусэвіч
Уладзімір Брылеўскі
а. М. Бурнос
Язэп Бабіцкі
Волтэр Л. Буртон
праф. Томас Р. Бэрд
Людвіка Беленіс
Вера Бартуль
Кон Ворт
Каця Вініцкая
Уладзіслаў Валадкевіч
Мікола Вайтовіч
К. Верабей
Янка Грушык
Раіса Галяк
Мікола Грэбень
Каця Грынкевіч
Павал Гуз
Браніслаў Даніловіч
Алег Дубяга
Аўген Дубовік
Антон Даніловіч
Др. Марыя Дэмковіч
Барыс Данілюк
Нікодым Жызьнеўскі
Др. Міхась Жылік
Др. Янка Запруднік
Расьціслаў Завістовіч
а. Вячыслаў Ільчук
Павал Кулеш
Кляра Кумэйша
Надзя Кудасаў
Віталі Кажан
Аўген Кажан
Мікола Кучура
Лявон Кавалёў
Уладз. Курыла
Ю. Касьцюкевіч
Міхась Каленік
Аўген Кабяко
Мікола Касьцюк
Надзя Касмовіч
Віктар Казлоўскі
В. Касьцюкевіч
Др. Вітаўт і Зора Кіпель
М. Кухарчык
Марыя Кулагін
Мікола Латушкін
Аркадзь Ліхач
Павал Лескі
Антон Маркевіч
Валя Мазуро
Уладз. Машанскі
Ванда Махнач
Арсень Монід
Кастусь Мярляк
С. Мажэйка
Надзя Мароз
В. і Р. Міцкевіч
Пятро Манькоўскі
Часлаў Найдзюк
Пятро Нягода
Пётра Нядзьведзкі
Др. Уладз. Набагез
Багдан Паўка
Эленора Пітушка
Уладз. Пелеса
Пятро Пікулік
Міхась Пашкевіч
Аўген Протас
Ала Орса-Рамано
Др. Вітаўт і Вера Рамук
Уладз. Ракуць
Уладз. Русак
Масей Сяднёў
Др. Я. Сажыч
Янка Сурвіла
Адольф Субота
Міхась Сенько
а. Карп Стар
Юрка Станкевіч
Мікола Сьнежка
Гэнрык Сенькевіч
Др. Мацей Смаршчок
Зіна Смаршчок
Уладзімір Сенько
а. Міхась Страпко
Алесь Тэлеш
Міхась Тулейка
а. Максім Таўпека
Др. Лявон Трусэвіч
Уладзімір Траскевіч
Ірэна Цупрык
Лявон Шурак
Станіслаў Шабовіч
Ю.Шайпак
Янка Юхнавец
а. Алесь Яноўскі
Мікола Ядасюк
Валянтына Яцэвіч
Мітр. Ізяслаў

Выбачайце, калі каго не дагледзелі...

## Курсы валют на 5 снежня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 8010 | 8250 | 5126 | 5033 |
| "Дукат" | 7900 | 8200 | 5000 | 5200 |
| "Прыор" | 8050 | 8400 | 5160 | 5390 |

## Новы фонд для СНД

**У Кіеве адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная двухдзённаму знаходжанню дэлегацыі Фонду прадпрымальніцтва для новых незалежных дзяржаў, створанага ўрадам ЗША. Яго мэта — садзейнічанне развіццю прыватнага прадпрымальніцтва ў Беларусі, Малдове і на Украіне. Як паведаміў старшыня Фонду Глен Хатчынс, у бліжэйшыя тры-чатыры гады для Фонду з амерыканскага бюджэту будзе асігнавана 150 мільёнаў долараў.**

# 12 000 палякаў — у замежных турмах

**Згодна са зьвесткамі польскага міністэрства юстыцыі, у турмах замежных краінаў адбываюць пакараньне або знаходзяцца пад сьледствам 12 тыс. грамадзянаў Польшчы.**

Самыя частыя прычыны арыштаў — крадзяжы з крамаў і кіраваньне машынай у нецьвярозым стане. Найбольшая колькасьць злапаных «на гарачым» палякаў — у вязьніцах суседніх Чэхіі ды Нямеччыны. Аднак калі-нікалі самыя няўрымслівыя з нашых заходніх суседзяў «прызямляюцца» на лавы падсудных і ў даволі экзатычных краінах. Напрыклад, нядаўна адзін польскі грамадзянін быў асуджаны на 3 гады ў Марока за кантрабанду гашышу. Тэрмін нібыта і невялікі, але, як кажуць спэцыялісты, 3 гады мараканскай турмы можна прыраўняць да 20 гадоў шведзкай. Але гэта яшчэ нішто. У некаторых іншых афрыканскіх краінах вязьняў нават не кормяць: яны не паміраюць з голаду толькі дзякуючы дапамозе сем'яў і консульстваў.

<u>ДАЛЕЙШЫЯ</u>

Ахвяры на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына:

| | |
|---|---|
| 37. Вера Малаземаў | $20.00 |
| Папярэднія ахвяры: | $1135.00 |
| Разам: | $1155.00 |

<u>Дарагія Чытачы!!!</u>

Зрабіце ўсё магчымае, каб і Вашае прозьвішча зьявілася на чарговай лісьце Ахвярадаўцаў на Музэй! Пры перасылцы чэкаў, калі ласка, рабіце дакладную паметку, што прызначаецца на Музэй, а што на Газэту...